ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 18 (2316) 6 мая 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

ЯГО ІМЯ ЗАЎСЁДЫ БЫЛО ЗВЯЗАНА З ТАЯМНІЦАЙ

## ДЗЯДЗЬКА ПЛАТОН

На ўскраіне Мінска, ля выезду на Маскоўскую шашу, прывольна раскінуўся парк культуры і адпачынку імя Чэлюскінцаў. У нядаўнім мінулым сасновы бор, які стварыў натуральную мяжу горада на яго ўсходняй ускраіне, ён на маёй памяці цешыўся славай лепшага кутка адпачынку. Дабірацца было проста — усім, што хадзіла з цэнтра горада па праспекце, які выводзіць на Маскоўскую шашу.

Нават самы стомлены і пазбаўлены фантазіі чалавек лёгка трапляў у гэты аазіс спакою, які існаваў тут дзесяткамі год некрануты, дзякуючы прымітывізму нашай "індустрыі" адпачынку. Нязграбнай прыкметай не была адзіная ў парку пабудова — танцпляцоўка, вытрыманая ў эстэтыцы лобнага месца, на якой мы, моладзь пяцідзесятых, з асалодай кружылі ў рамантычным вальсе ў чырвані вячэрняга сонца...

* * *

Імя Платона Галавача, "дзядзькі" Платона, як яго называлі ў пісьменніцкім асяроддзі, нягледзячы на тое, што не дажыў ён нават да трыццаці пяці, для мяне, колькі сябе памятаю, заўсёды было звязана з таямніцай.

Мне не споўнілася яшчэ двух гадоў, калі ў мілагучную калыханку, што гучала над маёй калыскай сімвалам бесклапотнага дзяцінства, раптам уварвалася разбуральнай нотай поўная драматычнага напружання песня катаржан...

Гэта мая маці галосіць над калыскай, выплакваючы песняй свой жаль, закладваючы ў падсвядомасці дзіцяці мелодыю трагедыі...

**Няма куды сваю жалобу ўкласці**
**Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.**
**Сябры мае, хіба аб гэтым шчасці**
**У маладосці марылася нам!**
**Вяло нас музы строгай блаславенне**
**На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...**

А гэта — бацька, Аркадзь Куляшоў. Трагедыйная мелодыя, што загучала ў яго душы тады, калі сіверны вецер эпохі смерчам выкарчоўваў з беларускай літаратуры адно імя за другім, уцягваючы ў свой вір і народ, у сярэдзіне шасцідзесятых выліласа цыклам вершаў "Маналог", прысвечаным сябрам юнацтва, беларускім паэтам Змітраку Астапенку і Юлію Таўбіну, пасля адной канфідэнцыяльнай размовы пра іх лёс. Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, які вярнуўся з высылкі, куды трапіў у выніку рэпрэсій трыццатых, меў што расказаць бацьку пра лёс яго сяброў.

Слухаючы яго горкае апавяданне, бацька скрушна маўчаў, і слёзы струменілі па шчаках. "Хачу, каб слёзы, што ў душы радзіліся, жыццём сваім асобным зажылі..."—напіша ён пазней у вершы "Зайздрошчу я мастам" — сваім паэтычным крэда. А "Маналог" — гэта замацаваная ў мастацкім слове, уведзеная ў культурны ўжытак нацыі памяць аб генацыдзе трыццатых.

А тады, у трыццатых, мае бацькі, іх акружэнне, беларускі народ у цэлым мала што ведалі і разумелі.

Пагаворвалі, што "бяруць" па начах, з трывогай штоноч прыслухоўваліся да рокату матора, чуючы часам, як грукаюць у дзверы паверхам вышэй ці ніжэй, як запаноўвае цішыня, поўная напружанага чакання, як барабанным пошчакам узрывае яе тупат ботаў, як заключным акордам бразгаюць дзверы пад'езда, ляпаюць дзверкі машыны, якая чорнай зданню знікае ў цемры...

Застаецца толькі адзначыць, што жывыя нашчадкі беларускай інтэлігенцыі нарадзіліся, відаць, "у кашулі", нямаведама як ацалеўшы... Вядома ж, што адзін толькі пісьменніцкі саюз страціў тады 90 працэнтаў сваіх членаў, іх бацькоў.

(Заканчэнне на 6-й стар.).



Платон ГАЛАВАЧ і Ксенія ВЕЧАР (1928 г.).

## РАДАЎНІЦА — ДЗЕНЬ ПАМІНАННЯ ПРОДКАЎ



**Памінаць продкаў людзі пачалі з сівой даўніны. У розных краінах па-рознаму. Сутнасць жа адна: успомніць добрым словам тых, каму мы абавязаны сваім існаваннем, жыццём.**

**27 красавіка тысячы жыхароў Беларусі прыйшлі ў храмы, цэрквы, на могілкі, дзе адбыліся хрэсныя ходы, паніхіды. Яны ўсклалі кветкі на магілы і сваіх продкаў, і тых, хто быў расстраляны ў гады сталінскіх рэпрэсій, і воінаў, якія бязвінна загінулі ў Афганістане, іншых гарачых кропках. У жалобных урачыстасцях прымалі ўдзел і прадстаўнікі ўлад рознага рангу: для ўсіх гэта свята аднолькава дарагое. Таму і афіцыйна аб"яўлена Радаўніца ў Рэспубліцы Беларусь нерабочым днём.**

НА ЗДЫМКУ: жалобная паніхіда ў Курапатах.

Фота Віктара СТАВЕРА.

БЕЛАРУСКА НА ПОДЫУМЕ ЖЫЦЦЯ

## НІХТО КАМЕНЕМ НЕ КІНЕ

У час трансляцыі па тэлебачанні новых мадэляў аддзення з Парыжа і іншых цэнтраў "высокай моды" некалькі разоў пачула: "У паказе прымалі ўдзел манекеншчыцы з Расіі і Беларусі". Першы раз проста звярнула ўвагу на цікавае паведамленне, другі — здзівілася, пасля трэцяга — адправілася ў рэкламнае агенцтва "Тамара", створанае пры акцыянерным таварыстве "Мінскае кабельнае тэлебачанне", а калі карацей — у школу манекеншчыц і фотамадэляў.

Трапіўшы на подыум, здаецца мне, да непазнавальнасці змянілася б любая жанчына. "Бядро — уперад, спіна — прамая, кісці рук — свабодныя, галава — уверх, шыя — доўгая, нібы на ёй калье з брыльянтаў", — камандавала кіраўнік школы Тамара Ганчарова. Прыгожа ідуць дзяўчаты. Усім бы нам так... Быццам спіны нашы ўсё жыццё не згіналі турботы і клопаты, а ў руках мы носім толькі прыгожыя сумачкі і букеты кветак, а не цяжкія сеткі з прадуктамі на тыдзень, а на доўгіх нашых шыях сапраўды дарагія каралі, а не муж, дзеці, работа, гаспадарка і цяжкі лёс краіны, якім распараджаюцца мужчыны, узвальваючы свае загады і рашэнні на нашы слабыя плечы.

А яны ўсё ішлі і ішлі, звычайныя дзяўчынкі, школьніцы, якія раптам сталі чароўнымі прыгажунямі. Як ім гэта ўдалося? Ды вельмі проста. Увага абавязвае. Колькі разоў мы самі, адчуўшы, што нехта глядзіць на нас, выпрастлі спіны, адкідвалі галовы, на вуснах са сцёртай памадай з"яўлялася пераможная ўсмешка.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*САДРУЖНАСЦЬ*

## РЭВАЛЮЦЫЯ Ў СНД?

**"Адбылася рэвалюцыя ў СНД!" — так па гарачых слядах пракаменціраваў вынікі сустрэчы кіраўнікоў урадаў Садружнасці, якая адбылася 28 красавіка ў Мінску, адзін з адказных супрацоўнікаў Рабочай групы СНД.**

**Кіраўнікі ўрадаў парафіравалі "Палажэнне аб Каардынацыйна-кансультатыўным камітэце СНД".**

**"Прыняты вельмі важныя рашэнні, якія істотна ўмацуюць Садружнасць, — сказаў каардынатар Рабочай групы СНД Іван Каратчэня. — Перш за ўсё гэта ўтварэнне Каардынацыйна-кансультатыўнага камітэта і выканаўчага сакратарыята Садружнасці. На ККК, у які ўвойдуць віцэ-прэм'еры ўсіх дзяржаў, ускладваецца кантроль і адказнасць за выкананне і раней прынятых рашэнняў СНД, і новых. А ў выканаўчы сакратарыят, які стане своеасаблівым пераемнікам Рабочай групы, увойдуць высокапрафесійныя спецыялісты, прычым на квотнай аснове ад кожнай рэспублікі".**

**Падзеяй вялікай важнасці назваў парафіраванне "Палажэння аб ККК СНД" прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч. Ён, у прыватнасці, сказаў: "Яшчэ год назад мы не падпісалі б такі дакумент. Больш таго, нават думкі такой ні ў кога б не ўзнікла".**

*ЗАЯВА БСДГ*

## НЕБЯСПЕЧНАЯ АВАНТУРА

**На нечарговай XI сесіі Вярхоўны Савет прагаласаваў за далучэнне нашай краіны да Пагаднення "Аб калектыўнай бяспецы", якое падпісана Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кіргізстанам, Таджыкістанам і Узбекістанам.**

**Як вядома, войскі шэрагу гэтых краін вядуць ваенныя дзеянні ў розных рэгіёнах былога СССР. Далучэнне да ваеннага саюза з ваюючымі краінамі альбо з краінамі, дзе існуе палітычная нестабільнасць, з'яўляецца небяспечным і авантурным, лічыць Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.**

**У заяве выканкома Цэнтральнай Рады БСДГ адзначаецца, што дарэмна спадзявацца, быццам уступленне ў ваенны саюз будзе спрыяць далейшаму існаванню нашага гіганцкага ваенна-прамысловага комплексу, а Расія будзе несці за нас ваенныя выдаткі і забяспечваць ваенныя заказы для беларускіх прадпрыемстваў.**

**Расія не мае сродкаў працягваць гонку ўзбраенняў. Танкі і ракеты не заменяць хлеба і масла, падкрэсліваецца ў заяве.**

**Грамада цалкам падтрымлівае пазіцыю Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча і ягоную ініцыятыву па правядзенню рэферэндуму з фармулёўкай: "Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?"**

**Заява звернута не толькі да сяброў Грамады, а і да ўсіх грамадзян Беларусі і заклікае арганізаваць збор подпісаў у падтрымку правядзення ўсенароднага рэферэндуму па пытанню аб нейтральным статусе беларускай дзяржавы.**

> *"Многія крычаць, што мы парушаем правы чалавека. Я ў першую чаргу выступаю за правы мінчан, якія ў сваім горадзе павінны спаць спакойна. Колькасць учыненых злачынстваў прадстаўнікамі "паўднёвых рэспублік" за тры месяцы гэтага года ўзрасла ў два разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага — гэта нармальна? Усе правы чалавека няварты аднаго згвалтавання, якое можна прадухіліць прыняццем патрэбных законаў. Нас таксама хто-ніхто папракаў, калі мы забаранілі з'яўляцца падлеткам без суправаджэння дарослага на гарадскіх вуліцах пасля 23 гадзін. Але ў нас была дакладная інфармацыя, што ў той час пачасціліся згвалтаванні жанчын, якія вярталіся пасля начной змены, хуліганствы менавіта падлеткаў. Дык што, трэба было чакаць новых злачынстваў? "Паўднёвыя" госці да нядаўняга часу ўвогуле сябе адчувалі беспакарана. Можна ўчыніць злачынства ў Мінску і знікнуць у невядомым напрамку — пасрабуй знайдзі. Цяпер жа з увядзеннем рэгістрацыі будзем патрабаваць ад іншых рэспублік, каб выдавалі "беларускіх" злачынцаў".*
>
> *(З інтэрв'ю намесніка старшыні Мінскага гарвыканкома А. ГУРЫНОВІЧА газеце "Звязда").*

*ЗЯМЛЯК З АРГЕНЦІНЫ*

## АПЕРАЦЫЯ Ў МАГІЛЁВЕ

**Унікальную аперацыю па ліквідацыі дзіцячага родавага паралiча правёў у Магілёўскай гарбальніцы аргенцінскі нейрахірург Уладзіслаў Васіленка.**

**Былы наш суайчыннік прыехаў у Магілёў наведаць сваякоў, а разам з тым падзяліцца і ўрачэбным вопытам.**

**Паводле папярэдніх даных, аперацыя, якая ацэньваецца на Захадзе ў 80 тысяч нямецкіх марак, прайшла паспяхова. Паўтарагадовы пацыент, сын аднаго з магілёўскіх урачоў, праходзіць курс пасляаперацыйнай рэабілітацыі.**

*ПЕРШАМАЙ*

## СТАРОЕ СВЯТА НА НОВЫ ЛАД

**На буйных і малых прадпрыемствах, у арганізацыях, навучальных і іншых установах рэспублікі Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі распаўсюджвала лістоўкі з заклікам правесці 1 Мая дзень абароны працы. Прафсаюзы заклікалі калектывы ў гэты дзень да актыўных дзеянняў у абарону правоў грамадзян на працу і забеспячэнне нармальных умоў жыцця. Прапанавалася праводзіць мітынгі, дэманстрацыі пад лозунгамі салідарнасці працоўных, у калектывах — ушанаванне ветэранаў і перадавікоў, наведанне інвалідаў працы дома, сем'яў загінуўшых на вытворчасці і аказанне дапамогі тым, хто ў гэтым мае патрэбу. Так са школы камунізму прафсаюзы становяцца для тысяч людзей школай жыцця, а ва ўмовах эканамічных рэформ — школай выжывання. Становяцца ці падстройваюцца пад вымаганні жыцця?**




**1 Мая ў Мінску адбылося шэсце-мітынг, удзел у якім прынялі партыі і грамадска-палітычныя рухі рэспублікі, што заключылі дагаворы на супрацоўніцтва з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі. Як і раней, над галовамі лунаті звыклыя лозунгі: "Мір", "Праца", "Май".**

**НА ЗДЫМКУ: дэманстрацыя працоўных у Мінску.**

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## В. КЕБІЧ СУПАКОЙВАЕ ВАЙСКОЎЦАЎ

**"Аб якім сёння нейтралітэце можна гаварыць, калі на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца 35 тысяч ваеннаслужачых Расіі, СНД, членаў іх сем'яў. Калі мы маем стратэгічныя ракеты з ядзернымі боегалоўкамі, калі мы не можам існаваць эканамічна, то, прабачце мне, што гэта тады за нейтралітэт?" — заявіў В.Кебіч на сустрэчы з афіцэрамі брэсцкага гарнізона, дзе прэм'ер выступіў з вялікай прамовай.**

**В.Кебіч сказаў вайскоўцам, што Савет Міністраў рэспублікі мае намер унесці на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі праект Закона аб двайным грамадзянстве. На яго думку, гэта дазволіць захаваць кваліфікаваныя кадры вайскоўцаў і цывільных.**

*КАНТРОЛЬ ВЫЯВІЎ*

## АФЁРЫ Ў СТАЛІЧНЫМ МЕТРАПАЛІТЭНЕ

**Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь выявіла страшэнныя злоўжыванні ў Мінскім метрапалітэне. Даведзена, што яго начальнік П.Мітасаў аднаасобна распараджаўся, як яму хацелася, чыстым прыбыткам метро. У прыватнасці, ён выдзяляў у мільёнах рублёў беспрацэнтную фінансавую дапамогу патрэбным яму людзям.**

**Загадам П.Мітасава фірме "Экспрэс-2" былі бясплатна перададзены два аўтамабілі і за нішто — электронна-вылічальная машына. У выніку толькі гэтай "аперацыі" высокага начальніка метро панесла страту — 600 мільёнаў рублёў.**

**Савет Кантрольнай палаты прапанаваў Мінгарсавету, якому належыць метро, фактычна адправіць у адстаўку П.Мітасава, галоўнага бухгалтара У.Магілёўчыца, галоўнага інжынера У.Мажніна, галоўнага эканаміста А.Кавальчука.**

**Ці будзе пакарана зло! Ведаючы нашы акалічнасці, з упэўненасцю цяжка сказаць.**

*У РАДОВІШЧАХ*

## АКОЛАЎСКАЕ, НАВАСЁЛКАЎСКАЕ І ІНШ.

**Для прамысловасці Беларусі патрабуецца каля 3,5 мільёна тон металу. Таму вучоныя ўжо сёння прагназіруюць магчымасць пабудаваць уласны горна-металургічны камбінат. Сыравіннай базай могуць служыць наяўныя пошукава вывучаныя месцараджэнні жалеза — Аколаўскае ў Стаўбцоўскім раёне і Навасёлкаўскае ў Карэліцкім з прагнознымі запасамі адпаведна 700 мільёнаў тон і 68 мільёнаў тон. Паводле папярэдніх ацэнак вытворчага аб'яднання "Белгеа", найбольш перспектыўным з'яўляецца Аколаўскае месцараджэнне. Жалезныя руды добра абагачаюцца, з высокім утрыманнем жалеза. Ды і па колькасці запасаў руды месцараджэнне адносіцца да буйных і ў выпадку пацвярджэння прагнозаў разведачнымі работамі іх дастаткова для забеспячэння сыравінай буйнога горна-металургічнага камбіната на працяглы перыяд работы.**

**На падставе гэтых даных у Беларускім эканамічным універсітэце і распрацавана канцэпцыя мэтазгоднасці стварэння свайго горна-металургічнага камбіната, якая прадстаўлена ў Дзяржкампрам рэспублікі.**

*ІНДЫЙСКІ КУТОК У БРЭСЦЕ*




**Адчуць водар Індыі, пакаштаваць яе своеасаблівыя прысмакі брэстаўчане могуць, не адпраўляючыся ў далёкія падарожжы. Па ініцыятыве індыйскага архітэктара Дашраджа Арвіндра, які многа разоў наведваў горад над Бугам, тут адкрыўся спецыялізаваны рэстаран з нацыянальнай кухняй далёкай усходняй краіны (на здымку). У дзвюх арыгінальна афармленых залах месцы за столікамі могуць заняць адразу 140 гасцей. Шаснаццаць індыйскіх поварў і іншы персанал рэстарана "Індыя" пастараюцца, каб кожны наведвальнік застаўся задаволены.**

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# НІХТО КАМЕНЕМ НЕ КІНЕ

А тут — кожны дзень са здзіўленнем і захапленнем пазіраюць на цябе не выпадковы прахожы, а сотні людзей, што прыйшлі сюды спецыяльна паглядзець не толькі на новыя мадэлі адзення, але і на цябе...

Пакуль дзяўчынкі старанна выконвалі заданні, я размаўляла з Тамарай Ганчаровай.

— Беларусь заўсёды славілася прыгожымі жанчынамі. Раней я, шчыра кажучы, лічыла, што гэта дзяжурны камплімент, але цяпер, калі нашы дзяўчаты пачалі выйграваць конкурсы прыгажосці і карыстацца поспехам на замежных паказах мадэляў, задумалася: а можа, сапраўды, мы, як заўсёды, цаны сабе не ведаем?

— А я заўсёды лічыла, што беларускія дзяўчаты вельмі прыгожыя. Мяккія рысы, павольныя рухі, ці не змяшанне крыві стварыла чароўны і непаўторны тып жанчыны?

Я слухала Тамару і думала, якімі словамі расказаць пра нашых жанчын, якія адметныя рысы вызначаюць беларускі жаночы характар і знешнюю прыгажосць? Мастакі розных краін і народаў увасаблялі ідэал жаночай прыгажосці ў вобразе маці Божай, Мадонны. Не абышла гэтая традыцыя і Беларусь. Давайце звернемся да іх, беларускіх мадоннаў, і ўгледзімся ў карціны Уладзіміра Савіча з цыкла, які носіць такую назву. Поўныя годнасці кабеты ў нацыянальных строях. Няма сярод іх вытанчаных прыгажунь і гарэзлівых маладзіц. Стрыманасць і сціпласць хаваюць унутраную энергію, якая, толькі крані, апячэ мацней за любы агонь.

Партызанская Мадонна Міхаіла Савіцкага таксама не падобная на пяшчотных мацярок эпохі Адраджэння, якія сярод аблокаў, анёлаў і прыгожых інтэр"ераў песцілі сваіх пухлявых дзетак. Яна не толькі абараняе сама, яна заклікае кожнага, хто можа трымаць у руках зброю, змагацца да смерці за жыццё сваіх дзяцей. Усю нашу гісторыю, увесь лёс народа можна прачытаць на тварах беларускіх жанчын... Цікава паглядзець і на драўляную скульптуру — у былыя часы перад вёскамі і на лясных гасцінцах ставілі людзі разное адлюстраванне Маці Божай. І тут замест незямной прыгажосці заходнееўрапейскіх мадоннаў — счарнелыя ад дажджоў і часу твары жанчын, прататыпы якіх можна было лёгка сустрэць у суседняй вёсцы. І нічога боскага ў іх не было, акрамя руху, якім прыціскалі яны да сябе сваіх малых, але ж ён аднолькавы і святы ва ўсіх жанчын на свеце. А мне чамусьці падаецца, што гэтыя не вельмі тонка выразаныя твары і, як напісаў Уладзімір Караткевіч, "чорныя, рабочыя рукі (правядзі такімі па чымсьці — сто разоў зачэпяцца)" не менш блізкія да Бога, чым прыгажуні Рэмбранта і Мікеланджэла.

Трэба заўважыць, што паэты былі менш суровымі ў адносінах да нашых жанчын. Сапраўдны шэдэўр, які не ўступае лепшым сусветным узорам, верш Максіма Багдановіча "У вёсцы". У простай, "упэцканай" вясковай дзяўчынцы паэт змог убачыць сімвал адвечнай прыгажосці і пяшчоты:

**... І саліваліся ў жывы абраз ядыны**
**Той выгляд мацяры ды з воблікам дзяўчыны,**
**Дзіцячым, цененькім, і ў гэты час яна,**
**Здавалася, была аж да краёў паўна**
**Якойсь шырокаю, радзімаю красою,**



**І, помню, я на міг пахарашэў душою.**
**А можа, не краса была ў дзяўчынцы той, —**
**Дзяўчынцы ўпэцканай, і хілай, і худой, —**
**А штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі**
**Стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.**

Умеюць знаходзіць беларускія паэты фарбы і словы, калі ідзе гаворка пра жанчын. Каб не цытаваць бясконца (а можна было б...), паставім кропку словамі паэта, пяру якога належаць самыя цудоўныя словы аб жаночых вобразах беларускай літаратуры:

**На беларускую дзяўчыну,**
**Калі тут праўду ёй аддаць,**
**Ніхто йшчэ каменём не кінуў**
**І не наважыцца кідаць.**

Сёння з вокладак часопісаў на нас глядзяць іншыя твары, але ж не будзем спяшацца сумаваць па мінуламу: у кожнага часу свае Мадонны, свае сімвалы прыгажосці. І між іншым, у дзяўчат, якія стаялі на подыуме, я думаю, таксама камень не паляціць... А сама Тамара Ганчарова — зграбная, высокая, прыгожая, з густам апранутая і загрыміраваная — самая добрая рэклама сваёй школе.

— Дарэчы, — гаворыць яна, — я сама некалі была манекеншчыцай, і дагэтуль у мяне дома ляжыць нумар газеты "Голас Радзімы", у якім расказваецца пра першы замежны паказ беларускай моды, што адбыўся ў Канадзе. Тады да нас падыходзілі беларускія і рускія жанчыны, што доўгія гады там жылі. "Вы не беларускі, вы, напэўна, англічанкі ці француженкі, якіх нанялі за грошы. У Расіі няма такіх тонкіх і зграбных жанчын, там усе тоўстыя", — сцвярджалі яны, пакуль мы не пачыналі з імі гаварыць.

— Сёння прафесія манекеншчыцы — мара многіх і многіх дзяўчат. А ці была яна прэстыжнай тады, калі пачыналі працаваць вы?

— Ведаеце, тады я саромелася прызнацца, што працую манекеншчыцай, быццам у гэтым было штосьці непрыстойнае. Цяпер усё інакш. Сёння нашы дзяўчаты збіраюцца працаваць па кантракту ў Аўстрыі, і гэта ўспрымаецца абсалютна нармальна, няма ніякіх перашкод. А ў той час мы давалі падпіску, што ні з кім не будзем там знаёміцца ці нават размаўляць.

— Скажыце, Тамара, школа фотамадэляў сёння — прыбытковая справа?

Тамара засмяялася:

— Можа цяпер, калі нашых дзяўчат пачалі запрашаць на паказы мадэляў, фотаздымкі, а таксама да ўдзелу ў тэлевізійнай рэкламе, мы будзем атрымліваць грошы. А пакуль... пакуль мне давялося прадаць адзіны ўласны пярсцёнак з брыльянтам, каб укласці грошы ў гэтую справу.

— Але ж рэкламныя агенцтвы (напрыклад, вядомае агенцтва Сашы Варламава) жывуць няблага і атрымліваюць прыбыткі. Праўда, рэпутацыя ў яго невысокая, і дзяўчаты, якія мелі з ім справу, скардзіліся на тое, што на Захад іх адпраўлялі зусім не для паказу мадэляў.

— Я ведаю і Сашу Варламава, і дзяўчат, якія мелі з ім справу. Паверце, у мяне таксама было шмат прапаноў за добрыя грошы "здаваць у арэнду" сваіх дзяўчат за мяжой. Што стрымлівае? Па-першае, прынцыпы, па-другое, у мяне расце дачка, яна таксама хоча стаць манекеншчыцай. Страх за тое, што нехта можа гэтак жа паступіць з ёю, што і яна можа трапіць у цяжкую сітуацыю, стрымлівае мацней за любыя забароны...

— Ці ўсе з вашай каманды стануць сапраўднымі манекеншчыцамі?

— А ці ж гэта галоўнае? Нават калі і не стануць вядомымі мадэлямі, яны навучацца прыгожа і правільна хадзіць, усміхацца, прычэсвацца. Да нас прыходзяць бацькі з падзякай за тое, што іх дочкі сталі больш жаноцкімі, навучыліся трымацца, з густам апранацца.

— Да таго ж, ім не трэба хваляваць за тое, дзе бавяць час іх прыгожыя дочкі... Як вы лічыце, цяжка сёння быць жанчынай?

— Канешне цяжка. Але ж я ніколі не перастану здзіўляцца нашым жанчынам. Прайдзіце па вуліцы. Надышла вясна. Здаецца, ўсё дорага, грошай няма, але ж за кошт фантазіі і густу (што, дарэчы, і вызначае сапраўдную жанчыну) вуліцы літаральна квітнеюць.

— А што было б, калі б нашых жанчын з іх густам і фантазіяй ды за мяжу, дзе ўсе ёсць...

— Я ведаю многіх дзяўчат, якія выйшлі замуж і паехалі ў іншыя краіны. Яны зараз там вельмі сумуюць... Нашым жанчынам, якія прывыклі за ўсё змагацца і атрымліваць задавальненне ад перамогі, нецікава там, дзе ўсё ёсць, дастаецца лёгка і без намаганняў. І тым не менш, — пасля паўзы дадала Тамара, — усё цяжэй і цяжэй адказаць на пытанне, як сёння жыць...

Я выйшла на праспект Машэрава і чамусьці падумала, што гэтая прыгожая вуліца сталіцы Рэспублікі Беларусь, як ніякая іншая, сімвалізуе наша сённяшняе жыццё. Валютныя магазіны, дзе звычайная сумачка каштуе больш за сто долараў, футра, каштоўнасці, ласункі... Паспрабуй у 17—20 гадоў абыякава прайсці міма гэтых шыкоўных вітрын. Толькі адзін будынак выбіваецца з агульнага інтэр"ера самай дарагой вуліцы горада, якая некалі будавалася як прамая дарога ў камуністычны рай дзяржаўных дач. Невысокі, шэры, з грубай цэглы інтэрнат юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта тут яўна не на сваім месцы. Ды і сапраўды, што рабіць закону сярод гэтай улады грошай? Ну, а ў канцы вуліцы — гасцініцы "Інтурыста", дзе пры жаданні можна вельмі проста папраціць сваё матэрыяльнае становішча... І ў многіх гэта атрымліваецца, тым больш, што зараз іншаземцы з вялікай ахвотай жэняцца на нашых дзяўчатах. А чаму б і не? Калі жанчына змагла застацца прывабнай і прыгожай у нашых умовах, любыя цяжкасці развітога капіталізму пададуцца ёй раем. Беларуская жанчына зараз — наш самы дарагі прадмет экспарту, які родная сквапная дзяржава чамусьці яшчэ не абклала падаткам. Але ж так і хочацца папярэдзіць замежных шукальнікаў танных нявест: нашы жанчыны зусім не такія простыя, як гэта можа падацца на першы погляд. Адагрэецца, ажыве, і самі не заўважыце, як мяккія, ласкавыя рукі пяшчотна возьмуць ваш лёс, жыццё, справы, думкі і імкненні, і вы самі пачняце дзівіцца прынятым вамі рашэнням (якія, дарэчы, будуць зусім не бязглуздымі), змяненням уласных густаў (і не абавязкова ў горшы бок), поглядаў на свет і падзеі ў ім (а можа, гэта і будзе менавіта тым, аб чым вы падсвядома марылі ўсё жыццё?).

Мяне абагналі дзве дзяўчыны, якіх я толькі што бачыла ў "Тамары". Гледзячы ўслед ім, высокім, прыгожым, з лёгкай паходкай і прамымі плячамі, я падумала, што манекеншчыцы — самыя звычайныя жанчыны, проста ім часцей, чым усім нам, нагадваюць, што яны — прыгожыя, маладыя, зграбныя, цікавыя і патрэбныя. Ну а нам застаецца самім памятаць пра ўсё гэта. Мы — не горшыя, мы ж беларускія жанчыны...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: будні і святы, ці проста работа беларускай школы манекеншчыц і фотамадэлей рэкламнага агенцтва "Тамара".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





СЛОВА МАЮЦЬ СЯБРЫ

МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

# У НАС ШМАТ АГУЛЬНАГА

Чувашы і беларусы маюць нямала агульных рыс. У поўнай меры іх вызначае сціпласць, цярплівасць, працавітасць, асаблівая прыхільнасць да трывалых традыцый. Безумоўна, у гэтым выяўляецца падабенства гістарычных лёсаў чувашоў як прадстаўнікоў цюркскага свету і беларусаў — свету славянскага. Таму, хоць і няблізка ад сярэдняй Волгі да Нёмана, нашы народы могуць лёгка знайсці агульную мову. У гэтым пэўнае значэнне мае і тое, што амаль усе чувашы — хрысціяне.

Зразумела, у наладжванні кантактаў паміж народамі найбольш актыўную і дзейсную ролю адыгрываюць дзеячы нацыянальнай літаратуры. І асабліва дзеячы такога ўзроўню і творчых мажлівасцей, як народны паэт Беларусі Янка Купала. Аўтар "Жалейкі" быў сярод тых, хто яшчэ ў 1936 годзе павіншаваў першага народнага паэта Чувашыі Н.Шэлебі з прысваеннем яму гэтага ганаровага звання. З таго часу пачалі перакладаць на чувашскую мову і вершы беларускага паэта. Праз тры гады на юбілеі армянскага эпасу "Давід Сасунскі" ў Ерэване пазнаёміліся два народныя паэты — чуваш С.Эльгер і беларус Янка Купала. А глыбокай восенню суровага 1941 года яны сустрэліся, як браты, у Чэбаксарах, дзе беларускі паэт пражыў два тыдні. За гэты час ён сустракаўся з іншымі вядомымі чувашскімі пісьменнікамі —Н.Шэлебі, Я.Усхаем ... Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, кнігі-падарункі з аўтографамі чувашскіх аўтараў (яны захоўваюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску, як і валёнкі, падараваныя песняру чувашскімі пабрацімамі).

Творчыя кантакты паміж чувашскімі і беларускімі майстрамі слова становяцца пастаяннымі з 50-х гадоў. У чувашскай перыёдыцы пачынаюць друкавацца вершы і байкі, апавяданні і артыкулы беларускіх аўтараў. На чувашскай мове выйшлі кнігі асобных беларускіх пісьменнікаў, сярод іх — зборнікі вершаў Янкі Купалы "Мара" (1957) і В.Лукшы "Летні дзень" (1987), "Беларускія апавяданні" (1955), "У краі, дзе неба адкрыта жоравам" (1985). Апошнія два выданні — арыгінальныя анталогіі прозы і паэзіі, якія пазнаёмілі чувашскіх чытачоў з творчасцю вядомых пісьменнікаў Беларусі XX стагоддзя.

Перакладалася таксама і драматургія. Яшчэ ў канцы 30-х гадоў на чувашскай сцэне былі пастаўлены п"есы К.Крапівы "Хто смяецца апошнім" і Я.Рамановіча "Мост". Асабліва папулярная ў нас творчасць А.Макаёнка. У 1950—70 гады па п"есах гэтага аўтара ў Чувашскім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя К.Іванова пастаўлены чатыры спектаклі — "Выбачайце, калі ласка!", "Лявоніха на арбіце", "Трыбунал" і "Святая прастата". Яны падкупляюць чувашскага гледача сваім народным гумарам і даволі глыбокім адлюстраваннем сучаснага жыцця. На сцэне згаданага тэатра, а таксама ў тэатры юнага гледача і на падмостках рэспубліканскага рускага тэатра ішлі спектаклі і па творах іншых аўтараў з Беларусі — "Паўлінка" Янкі Купалы, "Вечар" А.Дударава, "Мар"я", "Іван і мадонна" А.Кудраўцава і інш. Яны садзейнічалі не толькі лепшаму пазнанню чувашамі жыцця беларускага народа, але і дапамагалі артыстам адточваць сваё майстэрства. А пераклад камедыі "Паўлінка", апублікаваны ў часопісе "Таван Атал" (1983, N 12), стаў яшчэ і з"явай літаратурнага працэсу.

У чувашскай перыёдыцы час ад часу з"яўляліся і з"яўляюцца публікацыі, прысвечаныя Беларусі, у першую чаргу — беларускай мастацкай літаратуры. Часцей за ўсё такія публікацыі прымеркаваны да юбілейных дат вядомых паэтаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, М.Багдановіча, П.Броўкі, Максіма Танка і інш. У апошнія гады некалькі разоў пісалася пра С.Палуяна, які яшчэ ў 1909 годзе ў артыкуле "Нацыянальнае адраджэнне чувашоў" выявіў і глыбокае веданне культурнага жыцця чувашскага народа, і шчырае жаданне на прыкладзе духоўных памкненняў чувашоў абудзіць беларусаў ад летаргічнага сну. Дарэчы, перакладзены на чувашскую мову і апублікаваны (з належнымі каментарыямі) і сам артыкул С.Палуяна.

Знаёмству чувашоў з Беларуссю паспрыялі і Дні беларускай музыкі і літаратуры ў Чувашыі, праведзеныя ў красавіку 1968 і ў верасні 1973 гадоў. Былі і візіты чувашскіх майстроў слова і музыкі ў Беларусь (1968, 1974). У час гэтых мерапрыемстваў усталёўваліся новыя кантакты дзеячаў літаратуры і мастацтва двух народаў. У выніку гэтага, у прыватнасці, з"явілася анталогія чувашскай паэзіі на беларускай мове "Песні волжскага краю" (1988). Яе складальнікі — чуваш Ю.Сэмяндэр і беларус Ю.Свірка. Абодва яны і зараз падтрымліваюць актыўныя творчыя кантакты, плённа прапагандуюць чувашскую паэзію ў Беларусі і беларускую — у Чувашыі.

Беларуская тэматыка заняла трывалае месца ў творчасці многіх чувашскіх пісьменнікаў, у творах розных жанраў — у вершах, паэмах, раманах... Так, у сваім вершаваным рамане "Аптраманы" народны паэт Чувашыі П.Хузангай цёпла і падрабязна апісвае пабыўку Янкі Купалы ў Чэбаксарах, а ў гістарычным рамане М.Юхны "Адраджэнне" намаляваны вобраз Сяргея Палуяна...

Для асобных чувашскіх дзеячаў культуры Беларусь стала другою радзімай. Такой жа блізкай і роднай для некаторых беларусаў стала Чувашыя. У прыватнасці, з Мінскам надоўга звязаў свой лёс вядомы чувашскі кампазітар Г.Анчыкаў, які вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, а пасля працаваў у розных установах беларускай сталіцы, у тым ліку — і мастацкім кіраўніком Беларускай дзяржаўнай філармоніі (1966—1973 гады). Ім створаны хары на словы П.Броўкі і А.Русака, у выдавецтве "Беларусь" выйшаў яго зборнік "Хары" (1960). У Мінску даўно жыве і працуе сын чувашскага народа Д.Міхлееў, рэжысёр кінастудыі "Беларусьфільм". Апрача працы ў кіно, ён спрабуе сілы ў мастацкай прозе, у якой адлюстроўвае сваё дзяцінства, што прайшло ў чувашскай вёсцы, а таксама жыццё Беларусі. У Мінску выйшаў яго зборнік апавяданняў і аповесцяў "Кругазварот" (1989). У горадабудаўніцтве сталіцы Беларусі ўжо нямала гадоў працуе архітэктар і мастак В.Ачайкін — чуваш па нацыянальнасці, выпускнік мастацка-графічнага факультэта Чувашскага педінстытута імя І.Якаўлева. Ён адзін з тых, хто афармляў станцыю метро "Інстытут культуры", іншыя станцыі Мінскага метрапалітэна.

У сваю чаргу, беларусы, якія жывуць у Чувашыі, уносяць значны ўклад у развіццё сучаснай чувашскай культуры і навукі. Так, шырокай вядомасцю карыстаецца ў нас колішняя выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, цяпер народная артыстка Чувашскай Рэспублікі Т.Супоніна. Пэўны час яна працавала ў музычным тэатры Чэбаксар, сёння ж — адна з вядучых салістак Чувашскай дзяржаўнай філармоніі.

У Чувашыі створана і даволі актыўна дзейнічае аддзяленне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У яе склад уваходзяць навукоўцы, пісьменнікі, журналісты. І не толькі беларусы па паходжанні, але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Беларусісты Чувашыі таксама ўносяць уклад у даследаванне і пашырэнне беларускай культуры ў прыволжскім краі.

Гаворачы пра зробленае, трэба, аднак, звярнуць увагу і на пэўныя ўпушчэнні, прагалы, "белыя плямы" ў практыцы і тэарэтычным асэнсаванні чувашска-беларускіх культурных узаемасувязей. У ліквідацыі гэтых "белых плям", думаецца, нямала маглі б зрабіць земляцкія сябрыны: чувашоў — у Беларусі, беларусаў — у Чувашыі. Хацелася б верыць, што сход беларусаў блізкага замежжа падштурхне чувашскіх беларусаў да іх аб"яднання ў асобную філію "Бацькаўшчыны".

**Генадзь ЮМАРТ.**

## ДУХМЯНЫ КАРАВАЙ

**Соф'я Нехвядовіч, што жыве на Маладзечаншчыне, з дзяцінства адчувае трапяткую любоў да хлеба. Памятае ваенны голад, ведае гора, калі няма хлеба... Ведае яна і сакрэт, баз якога не атрымаецца адмысловы каравай.**

**— Замес трэба адчуваць, — гаворыць Соф'я Міхайлаўна. — Цеста — яно як жывое, даспець павінна. Што замесіш, тое і выпечаш.**

**Каравай выпякае на кляновым, дубовым лісце, на явары... Па традыцыі частуе адкавяскоўцаў. А яны здзіўляюцца: як гэта можа атрымацца такі смачны хлеб! Усміхаецца Соф'я Міхайлаўна, быццам паўтарае словы: "Што замесіш, тое выпечаш..." Сэрцам адчувае, любіць хлеб наш, як любяць яго тыя, хто вырошчвае.**

**НА ЗДЫМКУ: Соф'я Міхайлаўна дома са свежымі караваямі.**

**Фота А. БАСАВА.**

З НАШАЙ ПОШТЫ

## СВЕДЧАННЕ ШЧЫРАЙ ДРУЖБЫ

Мусіць, мала хто не толькі што з радавых чытачоў, але і з прафесіяналаў-літаратараў ведае пра існаванне такой кніжкі — Яр Славутыч. "Выбранае". З украінскай мовы пераклаў Масей Сяднёў. Эдмантон, выдавецтва "Славута", 1989. Ды гэта і зразумела: кніжка выдадзена далёка ад Беларусі і Украіны — у Канадзе, і толькі асобныя яе экземпляры выпадкова трапілі да нас. Ужо сам факт яе з"явы цікавы і каштоўны. Ён сведчыць, што не толькі ў межах Беларусі і Украіны развіваецца культурна-літаратурнае пабрацімства, але і ў дыяспары, у першую чаргу ў Канадзе і ЗША, дзе жыве нямала беларусаў і ўкраінцаў.

У прадмове да кніжкі — "Натхненны пясьняр Украіны" (правапіс выдання зберагаю. — **П.А.**) — М.Сяднёў, спасылаючыся на замежных даследчыкаў творчасці Яра Славутыча (гэта псеўданім Рыгора Жучэнкі), адзначае ганаровае месца гэтага таленавітага паэта і вучонага (доктара філасофіі, прафесара) сярод украінскіх пісьменнікаў дыяспары і сучаснай украінскай літаратуры наогул. І ў той жа час падкрэслівае: "Сваёй ськіраванасьцяй, сваім натхненным словам яго творчасьць кране сэрца і беларускага чытача, якому і прызначаецца гэтая маленькая кніжыца ( у ёй 50 старонак. — **П.А.**), выбраных твораў паэты".

Масей Сяднёў коратка спыніўся на прычынах, якія заставілі Яра Славутыча ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны выехаць з роднай зямлі на Захад, спачатку ў Прагу і Берлін, а потым у Баварыю і, нарэшце, у ЗША і Канаду. Такім чынам ён збярог свой выдатны талент для ўкраінскага народа.

Перакладчык імкнуўся выбраць з творчасці Яра Славутыча "найістотнейшае, найдаражэйшае і перадаць яго поўнакроўна, захаваць асаблівасьці паэтычнай манеры аўтара". І далей ён адзначае: "...пераклад натхняў мяне, а традыцыйнае ўжо беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва дадавала ахвоты. Тым больш, што наш шаноўны паэта — даўні перакладчык беларускай паэзыі, у тым ліку паэзыі эмігранцкіх аўтараў".

Высокае майстэрства Сяднёва-перакладчыка пацвярджаецца хаця б такім урыўкам з верша "Заваёўнікі прэрыяў", прысвечанага Ярам Славутычам "памяці першых украінскіх пасяленцаў у Канадзе":

**Не захопнікі з дальніх імпэрый,**
**ня з мінулых вякоў каралі —**
**заваёўнікі дзікіх прэрый**
**з Украіны сюды прыйшлі.**

**Лемяшы не маглі не скарыцца —**
**прааралі ўсе грудзі зямлі,**
**каб падольская ўпала пшаніца**
**ў лона чорнае новай зямлі.**

**І устала яна, залатая,**
**можа пахне з пячы каравай.**
**Слава й чэсьць украінскім ратаям,**
**што адкрылі канадскі край...**

Нават з працытаванага ўрыўка стае зразумелай каштоўнасць паэтычнай творчасці Яра Славутыча для нашых чытачоў, у першую чаргу ўкраінскіх. І не выклікае сумнення тое, што

**...будуць зьвінець няспынна**
**званы над Дняпром у мальбе,**
**вітаючы роднага сына,**
**што верным застаўся табе.**

Паэтычнае слова Яра Славутыча блізкае і беларусам. Не выпадкова ж з"явілася кніжка яго лепшых вершаў у перакладзе на беларускую мову, прычым у далёкай Канадзе. Нам прыемна адзначыць, што і там, за мяжой, шчырая дружба яднае беларускіх і ўкраінскіх майстроў мастацкага слова, што і там мацуюцца беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі, якія маюць шматвяковую гісторыю. Нам прыемна адчуваць, што і там, далёка за мяжой, фігуральна кажучы, жыве Беларусь, якая падае брацкую руку Украіне, бо нам, беларусам і ўкраінцам, дзе б мы ні знаходзіліся, жыць навекі ў дружбе!

**Павел АХРЫМЕНКА,**
**прафесар Сумскага педінстытута,**
**украінскі і беларускі літаратар.**

НА ВІЛЕЙШЧЫНЕ

## НОВЫЯ СТРАТЫ

Пасля таго, як 25 сакавіка на Літоўскім тэлебачанні была знята з эфіру святочная беларуская праграма, а Таварыства беларускай культуры атрымала адмову ўладаў Літвы аднавіць у Вільні Беларускі музей, які быў ліквідаваны тут пасля вайны, беларуская супольнасць панесла чарговыя страты. На гэты раз размова зноў ідзе пра тэлебачанне. 5 красавіка апошні раз выйшла ў эфір штотыднёвая беларуская праграма "Раніца тыдня". А штотыднёвая суботняя тэлеперадача "20 хвілінаў па-беларуску" скарочана ў часе і ўключана як рубрыка ў рускамоўную праграму "Согласие". Такім чынам, беларусы Віленшчыны страцілі здабыты шматгадовымі намаганнямі эфірны час. Да таго ж у Літве не рэтранслюецца праграма Беларускага тэлебачання (тады як рэтранслююцца дзве расійскія, адна польская і адна нямецкая), нельга набыць ці выпісаць беларускія выданні. Маючы гэта на ўвазе, разумееш, наколькі важная для тутэйшай 60-тысячнай беларускай супольнасці кожная хвіліна тэлеэфіру на роднай мове. Прадстаўнікі ўладаў Літвы тлумачаць новыя скарачэнні эфірнага беларускамоўнага часу празмернымі выдаткамі, а таксама новымі палітычнымі і творчымі канцэпцыямі, што звязана з прыходам новага кіраўніцтва на тэлебачанне і ўвогуле ў краіне.

# БЕЛАРУСЫ АРГЕНЦІНЫ



**ГІСТОРЫКА-ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ ПАРТРЭТ НАШАГА СУАЙЧЫННІКА З БЕРАГОЎ РЫО-ДЭ-ЛА-ПЛАТЫ**

Джунглі і пампа не так лёгка схілялі галаву перад беларускім "грынга", іншаземцам. Да таго, што гаварылася аб цяжкасцях, дадамо букет трапічных хвароб, неразвітасць дарожна-транспартных камунікацый, няведанне мовы. Але славутая працавітасць, упартасць беларусаў не пакідалі сумліву, што перашкоды і варожасць матухны-прыроды былі б пераможанымі. Аднак умяшалася вялікая дэпрэсія 30-х, якая ўсяленскім крахам балюча ўдарыла і па Аргенціне, адбіўшыся ў першую чаргу на немаёмасным слаі грамадства — імігрантах.

Гаспадары разараліся. Арандатарам не хапала капіталу, каб выплаціць працэнты і пазыку. Яны кідалі свае плантацыі і рухаліся ў гарады на пошукі работы. Беларускія "лінжэрас", бадзягі, начавалі пад мастамі, порпаліся на сметніках і жабравалі ў Буэнас-Айрэсе. Сярэдняя працягласць жыцця ў сталіцы была 38 гадоў і чатыры месяцы. У правінцыі Сан Хуан — 24 гады (аргенцінскія крыніцы інфармацыі). Ад месяца да месяца беспрацоўныя імігранты перабіраліся на даху таварных цягнікоў. Мала-памалу, праз тры-чатыры гады крызісу, жыццё наладжваецца. Краіна гаўча паправуляецца і, пачынаючы працаваць, набірае сілу.

**ШТРЫХІ... Без парагвайскага чаю партрэт аргенцінскага суайчынніка, лічыце, не існуе. Зялёны напой п"юць усюды і заўсёды. Акрамя Аргенціны, у Бразіліі, Чылі, Уругваі і Перу. (У некаторых раёнах правінцыі Місіонес і Уругвая "йерву-матэ" з ледзяной вадой называюць "тэрэрэ"). Дробна пакрышаны чай засыпаецца ў пасудзіну, якая часцей за ўсё робіцца з пустога гарбуза. У сухую засыпку ўстаўляецца срэбраная трубачка "бамбілья" з сітцам на канцы. Затым заліваецца гарачая вада. П"юць "йерву-матэ" нярэдка з сябрамі, у кампаніі, з аднаго гарбуза і з аднае трубачкі, перадаючы іх па чарзе. Чай добры тонік, седатыўны сродак, стымулятар стрававання, а таксама абсарбент, які мае цудоўную ўласцівасць вывадзіць радыяцыю.**

**Для закаханых спосаб запарвання "йервы-матэ" служыць адмысловай мовай сардэчных дыялогаў. Чай горкі — позна прыйшоў, няма надзеі; салодкі — сяброўства; гарачы — я таксама згараю ад кахання.**

## 3. "БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА" КЛІЧА ДА ЕДНАСЦІ

Хоць быў міжкантынентальны мігрант-беларус у "казачнай" Эльдарада і на возе, і пад возам, і ўпоперак, і ўздоўж, усё ж па вялікаму рахунку — ўцёк ад галоты і бядоты, што дапякалі на Бацькаўшчыне. А вось адарвацца ад яе Вялікасці сеньёры Палітыкі — не адарваўся. Прывёз у торбе яе з сабой. А яна прыстала з кароткімі гужамі...

На радзіме Вызваліцеля Амерык генерала Хасэ дэ Сан-Марціна разгортваецца змаганне паміж польскай ідэалагічнай і савецкай партыйна-дзяржаўнай сістэмай за душу, погляды, мысленне беларускага пасяленца. Аб тым крыху ніжэй.

Адначасова з гэтым (і насуперак яму) нацыянальнае "я" імігрантаў з Заходняй Беларусі голасна і выразна гучыць у краіне срэбра. У іхнім асяроддзі было многа сяброў Беларускай сялянска-рабочай Грамады і КПЗБ, адданых справе беларускасці, рашучых да дзеяння ў жаданні захаваць на чужыне прыналежнасць да свайго народа. Яны добра ведалі аб "палітыцы беларусізацыі", што давала плён ва Усходняй Беларусі перыяду 20-х. Таму не выпадкова, што першае нацыянальна-незалежнае Беларускае культурна-асветнае таварыства, заснаванае 22 снежня 1934 года і прынятае з вялікай радасцю землякамі, насіла назоў "Беларуская Грамада". Яно мясцілася на вуліцы Расеі, 119. Праўда, не пройдзе некалькі гадоў, і гэтая назва назаўжды знікне са старонак іміграцкіх газет і часопісаў. Нягледзячы на гэта, у календары на 1947 год быў змешчаны верш Б.Казлоўскага "Дзесяць запаведзяў Беларусса у Аргенціне". У ім ёсць такія радкі:

**Наша Беларуская Грамада**
**Гэта ёсць "Народная рада"**
**Яна к еднасци нас зызываиць**
**Народную праўду**
**раз"ясняиць.**

І раней беларускія імігранты далучаліся да грамадскага жыцця, але ў звязку з украінцамі ў Саюзе ўкраінскіх рабочых арганізацый. Пасля расколу ў ім беларускія ўдзельнікі запатрабавалі змяніць назву. І затым некалькі гадоў існаваў Саюз украінскіх і беларускіх рабочых арганізацый (СУБРА), якому падпарадкоўваліся пяцьдзесят аддзелаў, дзве газеты на рускай і ўкраінскай мовах і тры тысячы членаў.

З 1936 па 1939 год па прыкладу "Беларускай Грамады" засноўваюцца чатыры асяродкі: Беларускае культурна-асветнае таварыства "Культура" (г. Нуэва-Пампея), "Бібліятэка імя Івана Луцкевіча (г.Вілья Крэспа. І тут няма памылкі, як даказвалася ў савецкі час, маўляў, не Луцкевіча, а Луцэвіча), "Белавежа" (г.Авельянеда). Пра свае мэты "Культура" выказвалася наступным чынам: "Таварыства ставіць толькі культурныя мэты і стараецца аб"яднаць беларусаў нацыянальна".

21 траўня 1939 года гэтыя чатыры суполкі згуртаваліся ў Федэрацыю беларускіх арганізацый у Аргенціне, да каторай пазней далучаецца сябрына са сталічнага прыгарада Док Суд. Федэрацыя кіравалася ўправай. У яе ўваходзілі М.Мярэчка, Ул.Гайлевіч, Петрушэк і інш.

Федэрацыя польскіх таварыстваў у Аргенціне "Дом Польскі" і каланізацыйнае таварыства "Вольная Польшча" ставілі ўсялякія патырчакі нацыянальнаму самавыяўленню беларусаў. І прымушалі, як грамадзян Польшчы, уступаць у польскія арганізацыі, асабліва пасля "Сусветнага з"езда палякаў замежжа" (Варшава, 1934 год), які прыняў рашэнне згрупаваць усе нацыянальныя таварыствы. Частка беларусаў, першачаргова католікаў, паглынаецца польскай іміграцыяй. Немалаважнае, калі не вырашальнае, значэнне мела і тая акалічнасць, што кошт зямельных надзелаў, якія знаходзіліся ў руках польскага каланізацыйнага таварыства, быў намнога ніжэйшым, чымсьці ў свабодным продажы. Апроч таго таварыства давала крэдыты, дапамогу транспартам і г.д.

У гэтым выпадку беларусы афармляюць свае суполкі як нацыянальная меншасць "Blancorusa" (у перакладзе з іспанскай "белая руская"). Аргенцінскія ж улады, адносячы іх да белагвардзейцаў, дазвалялі рэгістрацыю. Адносяць яны да гэтае пары...

У беларускіх асяродках кіпела мастацкая аматарская работа: дзейнічалі драматычныя, харавыя, струнныя гурткі, якія выконвалі ў асноўным беларускі рэпертуар.

У 1938 годзе "Культура" зладзіла прадстаўленне на беларускай мове: іміграцкая і аргенцінская публіка ўпершыню ўбачыла спектакль "Мікітаў лапаць", пачула песні і вершы далёкай Беларусі, горача апладзіравала яе танцам. Мастацкі гурток "Бібліятэкі імя Івана Луцкевіча" апрача выступленняў у Нацыянальным тэатры Буэнас-Айрэса, у правінцыях, выязджаў таксама на гастролі ў суседні Уругвай. Беларускія суродзічы ла-плацкага краю рыхтаваліся прыняць свайго славутага земляка, спевака Забэйду-Суміцкага. Ды яго прыезду не суджана было збыцца: перашкодзіла вайна.

У таварыствах былі курсы іспанскай мовы, арыфметыкі, бухгалтэрыі, збіраліся бібліятэкі, кніжкі для якіх дасылаліся з Беларускага нацыянальнага камітэта, рэдакцыі тыднёвіка "Крыніца" і кнігарні "Пагоня", што знаходзілася ў Вільні, і падтрымлівалі з аргенцінскімі землякамі добрыя сувязі.

У год пачатку другой сусветнай вайны культурная камісія федэрацыі наладзіла выданне "Белорусского иллюстрированного календаря" на рускай мове. Гэтую акалічнасць выдаўцы растлумачылі ў адным з нумароў: "Этот календарь напечатан в большей его части на русском языке, что как бы не соответствует своему названию. Сделано это потому, что белорусская имиграция в большинстве не знакома со своим литературным языком"...

Але каляндар змяшчаў і старонкі на беларускай мове, хоць колькасць іх у агульным аб"ёме была не надта вялікая. Ён знаёміў чытачоў з культурнай дзейнасцю асяродкаў, з гісторыяй Аргенціны, Беларусі.

У суполках выходзілі і насценныя газеты: "Голас Беларуса", "Кузьня", "Наша мысль", "Зара".

Беларускія таварыствы адыгрывалі выключна важную ролю ў жыцці нашых землякоў. Яны былі адзіным месцам, дзе можна было пагаварыць на роднай мове, дзе цепліўся і грэў духоўны агеньчык сувязі з Бацькаўшчынай. Там адзначаліся знамянальныя даты Беларусі, супольна спраўляліся сямейныя святы.

Шмат хто з беларускіх імігрантаў разам з аргенцінскімі рабочымі браў удзел у сындыкальнай працы і дзейнасці Камуністычнай партыі Аргенціны, апірышча якой, як мяркуе аргенцінскі даследчык Хорхе Рамос, складалі імігранты-славяне. Хоць пастанова ЦК КП/б/Б ад 16 кастрычніка 1925 года вызначае савецкую партыйна-дзяржаўную палітыку ў дачыненні да працоўнай іміграцыі ў Паўночнай Амерыцы ( з тым разлікам, каб працягваць работу па разлажэнню і драбленню беларускай эміграцыі, ні ў якім разе не дапускаць стварэння якіх бы там ні было беларускіх аб"яднанняў, бо гэта "затармозіць развіццё беларускага руху савецкай арыентацыі"), яна распаўсюджваецца і на беларускіх перасяленцаў — працаўнікоў Аргенціны і ўсёй Паўднёвай Амерыкі.

Разам з тым варта зважаць і на той чыннік, што ўтварэнні нацыянальна-культурнага кшталту, часцей у выглядзе клубаў, гэта не нейкае запалітызаванае "вынаходніцтва" беларусаў, а адна з неад"емных уласцівасцей Аргенціны, эмігранцкай дзяржавы, якая і сёння ідзе нялёгкай пуцявінай складання агульнааргенцінскай нацыі з поліэтнічных іміграцкіх фрагментаў. Фрагменты ж, перш -наперш італьянская, іспанская, нямецкая, англійская, французская абшчыны, у сваю чаргу рухаліся мала што не ўласнай дарогай нацыянальнага развіцця. Ужо не кажучы пра палітычнае. І былі намнога больш багатыя, здольныя да ўплыву на самыя высокія паверхі ўлады, здатныя да лабіравання, чым беларуская. Ніякага параўнання ў гэтым сэнсе не можа быць нават з рускай "белай" ці армянскай іміграцыяй.

На тую ліхую гадзіну крызісу 30-х, імклівай эвалюцыі фашызму, абвастрэння міжнароднага становішча Аргенціна стала скрыжаваннем Лацінскай Амерыкі, дзе сутыкаліся ў нябачнай воку схватцы інтарэсы многіх і многіх краін. І адкуль вялося бурнае кантактаванне імігрантаў з радзімай у самых розных формах.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 15 — 17.**



Члены і актывісты "Беларускай Грамады".



Актыў таварыства "Бібліятэка імя І. Луцкевіча".



Актыў таварыства "Культура".

# ВЫ СЯБЕ НЕ ПАВАЖАЕЦЕ

Высокашаноўныя спадарыні і спадары!

Я атрымліваю вашу паважаную газету "Голас Радзімы". З вялікаю ўдзячнасцю прымаю гэты каштоўны дар. Я належу да тых украінцаў, якія вельмі любяць беларускую мову і літаратуру, якія вельмі беларусам спачуваюць і вашыя беды ўспрымаюць, як свае.

Вы пішаце шмат цікавага і аб жыцці Беларусі цяпер, і аб адраджэнні рэлігіі (вельмі ўзварушыў здымак маці з дачушкаю, якія моляцца перад алтарыкам). Адно толькі яшчэ не здавальняе ў вашай газеце, ды й наогул у афіцыйнай беларускай прэсе. Чаму вы, даражэнькія, калечыце свае славутыя беларускія імёны гарадоў, карані якіх яшчэ цягнуцца з старажытнае Беларусі, і мяняеце іх на польска-расейскія. Пішаце не Менск, а Мінск, не Гародна (ці Гародня), а Гродна, не Бярэсце, а Брэст, не Наўгародак, а Навагрудак? Гэта ж амаль зусім па-польску.

Вельмі я таксама паважаю і вялікую польскую мову, і вялікую польскую літаратуру. Захапляўся і захапляюся заўсёды Міцкевічам. Чытаў і перачытваў неаднойчы і Сянкевіча, і Пруса, і Ажэшкову, і Дамброўскую, і Івашкевіча, і Славацкага... Ды не пералічыць гэтых славутых імёнаў. І мову польскую вельмі люблю. Усё гэта так, але ж не трэба паланізаваць геаграфію Беларусі. Няхай палякі завуць беларускія гарады па-свойму. Гэта іхняе права. А для чаго і з якой мэтай трэба іх перадражніваць? Польскія назвы на беларускі кшталт гучаць вельмі дрэнна, смешна. Яны яшчэ і паніжаюць нацыянальную годнасць беларусаў. Атрымліваецца так, быццам ніколі не мелі беларусы ўласнай гісторыі і ўсе гэтыя гарады (месты) ім пабудавалі палякі. Тым часам як, наадварот, усё было зусім інакш: пра Менск піша яшчэ Уладзімір Манамах, "трубяць трубы гародзенскія" (не гродненскія) у "Слове аб палку Ігаравым". Гэта шмат пазней "пераапранулі" палякі беларускія назвы на свой лад. Але навошта іхнюю манеру называць мясцовасці Беларусі па-польску малпаваць... беларусам? Бедныя, бедныя беларусы! Убогая маці-Беларусь! Дасюль яшчэ як не вызнавалі захопнікі існавання беларусаў як асобнага славянскага народу, так і застаецца. Няўжо ніхто ў Беларусі гэтага не разумее?

Як жа будуць паважаць вас чужынцы, калі вы самі сябе не паважаеце?

Са шчырым шанаваннем і найлепшымі пажаданнямі

**А.ТКАЧЭНКА.**

# ДЗЯДЗЬКА ПЛАТОН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Дзеці Платона Галавача, — гадавалы Ралан і сямігадовая Галіна, напрыклад, пайшлі па людзях праз тры месяцы пасля арышту бацькі, калі, выкарчоўваючы, відаць, ужо і памяць, арыштавалі яго жонку — меліяратара (!).

Для лагераў Акмолінскай ссылкі гэта было выратаваннем. Каб не яе гароды, зняволеныя разам з вартаўнікамі ў першую ж зіму перамерлі б з голаду ў гэтай бязводнай пустэчы, калі верыць сведчанням Веры Сцяпанаўны Галадзед, салагерніцы Ніны Фёдараўны.

Аднак з культуры, як памяці народа, дзеці Галавача былі вымандціраваны. А разам з імі і тое, што сёння ўсе мы збіраем па крупінках.

У Рэчыцы, дзе на пачатку дзевяностых мне давялося пабываць з пісьменніцкімі выступленнямі, я пазнаёмілася з чалавекам, які расказаў, што, гуляючы хлапчуком у двары свайго мінскага дома, бачыў, як адной жнівеньскай раніцой 1937 года Платона Галавача — арыштаванага, як ён потым даведаўся, — выводзілі з хаты. Ён трымаў рукі за спіной і выглядаў вельмі стомленым. Пасля начнога вобыску, як мы цяпер ведаем. Я глядзела на свайго сівога ўжо субяседніка ўтрапёна: не магла паверыць, што праз столькі год, на маім закатным ужо небасхіле з'явіцца раптам чалавек, які зноў на момант звяжа некалі гвалтоўна перарваную ніць нашых лёсаў.

Калі гаворка заходзіць пра дзядзьку Платона, перад вачыма нязменна паўстае адна і тая ж карціна: да мяне, вельмі, відаць, малой, нахіляецца чалавек, твар якога, калі ён схіляе галаву, зацяняе густая чупрына непакорных ільняных валасоў. Мне так падабаецца гэты кужаль, што, цягнучыся за ласункам — ён, кажуць, заўсёды мне нешта прыносіў, — я спярша дакранаюся да яго мяккіх валасоў.

Для маёй маці, у дзявоцтве Ксеніі Вечар, Галавач зрабіўся другім бацькам пасля таго, як яна, вясковая дзяўчынка і круглая сірата, трынаццацігадовай трапіла ў Мінск, у сям'ю дзядзькі Платона, за якім была замужам яе старэйшая сястра.

Сям'я Галавача, дзякуючы дэмакратычнасці гаспадара, жыла надзвычай адкрыта. Да іх ішоў кожны, хто меў патрэбу ў парадзе, спачуванні альбо падтрымцы. Гэта яго спагадлівасць да людзей дала, кажуць, повад для арышту: напярэдадні Галавач звяртаўся ў Саюз пісьменнікаў з хадайніцтвам аб дапамозе сям'і арыштаванага пісьменніка. Ім быў літаратуразнаўца Якаў Бранштэйн.

А пра арыштаванага, гэта значыць — ворага народа, належала забыць. Не выпадкова многія практычныя сямейнікі арыштаваных спяшаліся адрачыся ад іх.

Так што ўжо ў дзяцінстве я ведала, выпадкова пачуўшы ад бацькоў, што дзядзька Платон бязвінна арыштаваны. Што след яго згубіўся. Што тады для маёй маці "скончылася юнацтва". Час ад часу, не раней пяцідзесятых, праўда, мне даводзілася пачуць і зусім ужо незразумелае: "вінавата сістэма". Адзінае, пра што мае бацькі гаварылі — выключна у сямейным коле — не тоячыся і нават з вясёлым жартам, датычыла мяне.

Я нарадзілася ў студзені. Праходзіць люты, ідзе сакавік. У госці да Куляшовых — з Маскоўскай на Асавіяхімаўскую — завітваюць сваякі: Ніна Фёдараўна і Платон Раманавіч. Між іншым, цікавяцца, як назвалі дачку. Высвятляецца, што пакуль ніяк. Маці хоча назваць Ганнай у гонар любімай гераіні рамана "Зачараваная душа" Рамэна Ралана, на што бацька не згаджаецца: яна будзе тады Ганнай Аркадзеўнай, што, як вядома з той самай літаратуры, нічога добрага не абяцае.

— Гэтыя мне літаратары! — абураецца Галавач. — Усё яны чыталі, усё ведаюць, а дзіця ўжо трэці месяц без імені. Будзе Валянцінай! — рашуча заяўляе ён і дадае летуценна:

**Валя, Валентина, что с тобой теперь?**
**Белая палата, крашеная дверь...**

— Дык гэта ж "Смерть пионерки"! — з жахам выкрыквае маці.

— Што кіем, што палкай! — уздыхнуўшы, падсумоўвае бацька, маючы на ўвазе літаратурны лёс Ганны Карэнінай і піянеркі з верша Багрыцкага. Так я раблюся Валянцінай.

У тэорыі культуры існуе такое пытанне: асоба творцы. Пытанне гэтае больш шырокае, чым паняцце творчасці. Год стогадовага юбілею Максіма Багдановіча паказаў, як марудна ўпісваем мы постаці сваіх, вялікіх, нават у агульную карту беларускай культуры, запавольваючы працэс самаўсведамлення народа. Усё тут ўзаемазвязана: нізкае самаўсведамленне народа вядзе да дакументальных страт, што ўскладняе працэс асэнсавання творчай асобы, неразуменне якой перашкаджае ўспрыняццю творчасці.

Падчас арышту Галавача была канфіскавана і страчана для культуры яго адзіная каштоўнасць — унікальная бібліятэка. Загінуў і архіў пісьменніка з яго багатай перапіскай і два апошнія раманы — "Дарога ў свет" і "Ён", — скончаныя напярэдадні арышту, якія маглі б паставіць апошнюю кропку на пытанні аб эвалюцыі яго светапогляду.

На сцяне камеры, адкуль Галавач выйшаў у апошні раз, як і ў запісцы, якую знайшлі арыштаваныя за вадасцёкавай трубой у месцы агульнага карыстання, людзі прачыталі: "Бывайце, таварышы, гісторыя нас рассудзіць!" Што ж аддаваў на суд гісторыі Платон Галавач?

"Ёсць такая катэгорыя добрых людзей, паважаных інтэлігентаў. Паглядзець на іх звонку, паслухаць іх — чыстае ўцелясненне дабра і справядлівасці. Мітусяцца яны ў жыцці, самі не ведаюць, чаго шукаюць. Гоняцца за многім, жывуць напружанасцю перажыванняў, якія вельмі хутка праходзяць і, дзякуючы гэтаму, не маюць цэльнасці. Сацыяльная міміка ў такіх людзей багатая, а фізіяноміі няма". Такая характарыстыка расейскага, а, значыць, і беларускага інтэлігента дарэвалюцыйнай фармацыі даецца яму героем рамана Галавача "Праз гады" — itогавым з дайшоўшых да нас твораў пісьменніка. Характарыстыка, хутчэй, адмоўная, чым наадварот, але ці канчатковая яна?

Платон Галавач нарадзіўся 18 красавіка 1903 года ў вёсцы Пабокавічы каля Бабруйска ў беднай сялянскай сям'і. Яго асоба сфакусіравала ў сабе ўсё лепшае, што магло нарадзіцца з народнай трагедыі — дзвюх войнаў і дзвюх рэвалюцый. Гэтыя падзеі юнак асэнсаваў так: "Рэвалюцыя ішла і заклікала кожнага да любові, народжанай у нянавісці: каб не было на зямлі людзей, якія ўладараць, і чалавека прыгнечанага, каб не было больш здзекаў чалавека з чалавека".

Жыццёвы і творчы шлях Галавача пачынаўся з камсамола: у верасні дваццатага ён аб'ядноўвае моладзь сваёй вёскі ў камуністычны саюз. Вось сфармуляваны ім самім дэвіз камсамольскага жыцця: "Прыйшлі новыя, поўныя творчай энергіі і ініцыятывы людзі. Яны прынеслі ў свет ідэю перабудовы сацыяльнага ладу". У рэчышчы "перабудовы" і бачыць сэнс свайго жыцця будучы пісьменнік. Так з'яўляюцца ў прэсе яго першыя карэспандэнцыі пра першыя крокі моладзі ў накірунку вялікай перабудовы грамадства. Актыўнага селькора, здольнага арганізатара моладзі заўважае Вера Харужая, тагачасны супрацоўнік Бабруйскага аддзела палітпроса. Па яе прапанове Галавача накіроўваюць у Мінскую аднагадовую партыйна-савецкую школу. У 1923-м ён ужо слухач Мінскай партшколы, а ў 1925-м — аўтар каля трыццаці артыкулаў і першага апавядання, якія друкуе ў газеце "Савецкая Беларусь". Дзесяць год ён будзе цесна звязаны з камсамолам і пройдзе шлях ад сакратара вясковай камсамольскай ячэйкі да першага сакратара ЦК камсамола Беларусі. Шлях камсамола — гэта яго асабісты шлях, што дае яму падставу юбілейны артыкул, прысвечаны дзесяцігоддзю камсамола Беларусі, назваць інтымна: "Дзесяць нашых".

У артыкуле "Навучымся кіраваць" Галавач выступае за працаздольны камсамольскі актыў, за яго ідэйную і маральную чысціню, таму што многія актывісты, заўважае аўтар, "нахапаўшыся павярхоўных ведаў, яўляюць сабой тып універсальнай нікчэмнасці".

У шматлікіх артыкулах пра камсамол Галавач абгрунтоўвае новыя прынцыпы выхавання моладзі, дэманструючы небяспечную самастойнасць мыслення, за што ўжо паплаціўся другі, таксама звязаны з камсамолам і Верай Харужай, выбітны талент беларускай літаратуры і маладой беларускай кінематаграфіі Анатоль Вольны, арыштаваны пасля вядомага нам зараз па мінулагодняй публікацыі ў "ЛіМе" пісьма ў ЦК партыі, напісанага ім у сааўтарстве ў 1925-м.

А пакуль што Платон Галавач, "надзея беларускай літаратуры і яе строгае сумленне", як сказаў пра яго Ул. Лідзін, куратар беларускай літаратуры ў Маскве, знаходзіцца ў цэнтры падзей культурнага і палітычнага жыцця рэспублікі і краіны.

Як упаўнаважаны партыі, як камсамольскі арганізатар і пісьменнік, Галавач многа ездзіць. Яго слова гучыць на камсамольска-партыйных сходах, з'ездах, канферэнцыях, на вёсцы ў перыяд калектывізацыі, перад студэнтамі, на з'ездах Саветаў, на сходах і канферэнцыях пісьменнікаў, на сустрэчах з рабочымі, чырвонаармейцамі, матросамі Балтыкі, на літаратурных вечарах у Маскве, Смаленску, Харкаве. У дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў амаль заўсёды Платон Галавач, які, калі верыць літаратуразнаўцу М. Смолкіну, сваёй энергіяй і палымянасцю нагадвае Аляксандра Фадзеева.

У 1932 годзе, пасля перабудовы літаратурна-мастацкіх арганізацый рэспублікі, Платон Галавач прызначаны адказным рэдактарам галоўнага літаратурнага часопіса Беларусі. У рэдкалегію "Полымя рэвалюцыі" ўваходзяць Цішка Гартны, Міхась Клімковіч, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны і іншыя, з кім плённа працуецца на ніве развіцця беларускай літаратуры, узбагачэння яе лепшымі ўзорамі літаратур народаў свету.

У 1934-м на старонках "Полымя рэвалюцыі" пачынае друкавацца новы, самы буйны з дайшоўшых да нас твораў Платона Галавача, — раман "Праз гады".

"Па-мастацку глыбока і праўдзіва расказаць пра нашу эпоху і людзей, якіх, у сваю чаргу, стварае наша эпоха, — вось маё заданне, якое я спадзяюся ажыццявіць", — заяўляе Галавач у 1933-м. Як высвятляецца, задума рамана генетычна звязана з аповесцю "Спалох на загонах", якая ўжо не задавальняе аўтара. Пра гэта ён расказвае ў артыкуле "Як была напісана аповесць "Спалох на загонах", у якім, між іншым, заўважае, што "выкарчоўваць у сялян глыбокія карэнні дробнаўласніцкай псіхалогіі — справа нялёгкая, што хутка, адразу, гэтага не зробіш". Ён упэўнены, што пытанне пабудовы калгаса нельга рашаць сілай.

Мая маці гаварыла мне, што арышт і далейшы лёс Галавача, па яе меркаванні, звязаны з пісьмом, якое па слядах калектывізацыі напісаў у ЦК партыі Галавач. У пісьме ён як быццам бы выказвае сваё абурэнне метадамі калектывізацыі, кваліфікуе іх як адыход ад ленінскіх прынцыпаў і заяўляе аб сваім жаданні выйсці ў сувязі з гэтым з партыі.

Той, да каго трапіла пісьмо, як быццам бы паклаў яго ў сейф і параіў Галавачу не ўспамінаць гэтага факта сваёй біяграфіі.

У рамане ж "Праз гады" загучала яшчэ адна тэма. Новая для Галавача. Тэма інтэлігенцыі. На пачатку артыкула мы ўжо сутыкаліся з галавачоўскай трактоўкай інтэлігента. Аўтар разглядаў пытанне з пазіцый чалавека, чыя лінія ў жыцці акрэслена аднойчы і назаўсёды. Так разумеў праблему аўтар у 33-м, пачынаючы раман. А ў 34-м на апошніх старонках твора чытач робіцца сведкам такой спрэчкі двух інтэлігентаў: "Я буду гаварыць, што думаю, — заяўляе паэт Ягупла. — Я быў некалі не зусім добрым прыяцелем бальшавікоў. Я лічу, што ў сямнаццатым бальшавікі змаглі перамагчы толькі таму, што ў прыватнасці інтэлігенцыя была дужа інертнай і не цікавілася тым, што робіцца, у той час як ёй бы і трэба было ўзяць у свае рукі лёс Расіі і зрабіць яе сапраўды шчаслівай. Але гэтага не здарылася. Бальшавікі выкарысталі інертнасць інтэлігенцыі і з-пад яе рук узялі ўладу. Пасля інтэлігенцыя паверыла, што пачынаецца нешта новае, і пайшла да іх. Мы адмаўляліся ад вельмі дарагога, дзеля неіснуючага, і я ўсведамляю гэта толькі сёння. Цяпер позна. Сіла на іхнім баку. Тэорыямі класавай барацьбы яны раз'ядналі і апошнюю сілу — сялянства, і сёння сялянства — вугаль, які яны кідаюць у топку паравіка, на якім едуць". А вось і апанент. Гэта — прафесар Галынскі, "беспартыйны дэмакрат": "Я не ведаю, ці будзе заўтра рай, але я ведаю, што людзі ў бальшавіцкай дзяржаве хутка не будуць нават ведаць, што такое голад, жабрацтва, беспрацоўе, сіроцтва. Так, так! Я не ведаю, ці будзе гэта рай, але гэта будзе зусім не тое жыццё, якога хочаце для Расіі вы. Вы цягнеце Расію назад. І я рад, што з гэтага нічога не выйдзе!" Падобнае бачанне лёсу краіны, відаць, больш адлавядае пазіцыі аўтара, а супрацьлеглая — плён ягонага горкага роздуму, яго сумненняў, як і сведчанне таго, што светапогляд нядаўняга камсамольскага важака перажыў эвалюцыю ў напрамку светаадчування класічнага інтэлігента, які разумее, што абсалютных ісцін няма. Ці было гэта апошнім этапам эвалюцыі светаўспрымання Галавача і ці засталася яна толькі светапогляднай? На гэтае пытанне змогуць адказаць толькі архівы спецхранаў. Я ж прапаную ўласную версію, пабудаваную на яго ўласных выказваннях, а таксама на тым, што чула ў розныя часы і ад розных людзей.

"Твайго дзядзьку Платона Галавача і Васіля Каваля я бачыў апошні раз 3 кастрычніка 1937 г. Іх прывялі сведчыць супроць мяне. Першым павінен быў гаварыць Галавач. Скатаваны і знясілены, ён доўга маўчаў. Нарэшцэ Платон Раманавіч загаварыў:

— За ім няма ніякай віны, таксама, як за кожным з нас, — сказаў, і слёзы паліліся з вачэй. Іх хуценька вывелі. А мы неўзабаве даведаліся, што 29 кастрычніка Платона Галавача і Васіля Каваля не стала".

Запіску такога зместу я атрымала ад С.П. Шушкевіча, асуджанага па працэсе "нацдэмаў", які ішоў паралельна другому — над "удзельнікамі трацкісцкай змовы супраць Главы дзяржавы", па якім, апроч Галавача і Каваля, былі як быццам бы асуджаныя яшчэ чацвёра. Двое з іх — Міхась Чарот і Анатоль Вольны, здаецца, а двух астатніх, магчыма, падкажа хто іншы...

* * *

У парку Чэлюскінцаў, улева ад цэнтральнай алеі, там, дзе потым пабудуюць танцпляцоўку, восеньскай ноччу трыццаць сёмага спыніўся "чорны воран". Магло быць і так: стомленыя начным дзяжурствам, каты не абцяжарвалі сябе думкай, куды весці смяротнікаў. Ці то з Валадарскай, ці то з Урыцкага павярнулі ўлева на Савецкую і даехалі да Маскоўскай шашы. Справа пачынаўся сасновы бор. Направа і павярнулі. Машына спынілася. Ляснуў дзвярны запор. Дыхнула вільгаццю. Скатаваныя, яны ледзь трымаліся на нагах. "Дзевятнаццаць нашых", — з горкай іроніяй мог бы падумаць Галавач: пачыналася 29 кастрычніка — Дзень нараджэння камсамола.

**Валянціна КУЛЯШОВА.**

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# ПАКУТНІК ЗА БЕЛАРУСКУЮ ІДЭЮ

Прычыну поспеху гэтага "фальсіфікату" на выбарах у сойм (з 40 мандатаў ад беларускага насельніцтва "Вызваленьне" атрымала амаль палову — крыху больш, чым Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт) публіцыст бачыў у тым, што адміністрацыя і манапольная прэса зрабілі ўсё, каб не дапусціць на рынкі ідэй "аўтэнтычны прадукт самастойнай палітычнай думкі — уласную беларускую нацыянальную і сацыяльную ідэалогію". Пазней пісьменнік мабілізаваў усю сваю эрудыцыю, красамоўніцкі талент, урэшце, моцны тэмперамент палітычнага барацьбіта, каб удыхнуць у беларускае грамадства дух аптымізму і творчую энергію, выкрыць дэнацыяналізатарскую палітыку "месіянскіх" нацыяў на Беларусі. Напісанае восенню 1923 года на высокім творчым напружанні сацыяльна-этычнае эсэ "Гэтым пераможаш! (Нарысы крытычнага аптымізму)" стала адраджэнскім прароцтвам пра Беларусь, якой здрадзіла "дэмакратычная" Еўропа, а падзяліілі паміж сабою бальшавіцкая Расія і панская Польшча.

Пераказаць гэты твор Самойлы, бадай што, немагчыма, бо ён сваім вобразным, экспрэсіўным стылем набліжаецца да паэмы ў публіцыстыцы. Гэтае прароцтва Сулімы мне бачыцца ў двух аспектах — нацыянальна-беларускім і сусветным. Беларускі крытычны аптымізм выявіўся ў пераканаўчым доказе той праўды, што двум асімілятарам — псеўдарэвалюцыянерам, што марылі пра безнацыянальны камуністычны "рай на зямлі", і контррэвалюцыянерам, якія з згаістычнай інфантыльнасцю абвясцілі канфедэратыўную шляхецкую Рэч Паспалітую да яе "разбору" ў канцы XVIII стагоддзя польскай унітарнай дзяржавай і спрабавалі адрадзіць сваю няспраўджаную імперыю, — ніколі не ўдасца сцерці з твару зямлі Беларусь, бо яна засведчыла сябе самабытнаю моваю, культураю і прагай да самавызначэння.

Філасофскае эсэ Ул. Самойлы "Гэтым пераможаш!" як быццам бы пісалася па заказу нашай сучаснасці. Як быццам сёння чытае ён лекцыю пра пераадоленне сусветнага зла творчым парывам, перайтварэнне яго ў дабро. Пра тое, што не выратуе нас ні рэвалюцыя, ні контррэвалюцыя, а толькі працоўная энергія і духоўны аптымізм. Сістэма лагічных доказаў гэтага самабытнага філасофа і этычнага сацыёлага грунтуецца на пастулаце, паводле якога жыццё ёсць нічым не абгрунтаваны, прыроджаны аптымізм. Гэтая стыхійная вера ў быццё спарараджае духоўна-творчую актыўнасць, якая, каб быць плённай, кіруецца "прынцыпам эканоміі сілы". Паводле гэтых крытэрыяў Самойла выдзяляе два культурна-гістарычныя тыпы — усходні, альбо "фаталістычны", і заходні, альбо "актывістычны". Для першага тыпу усе праявы дабра і зла, усе гістарычныя дзеі — "вытвор Прыроды, Лёсу, Бога", ці іх "намеснікаў" на зямлі ў постацях дзяржаўнай улады, у якой бачаць не палітычную функцыю грамадства, а звышсацыяльную, надграмадскую субстанцыю. Наадварот, для "заходняга" тыпу культуры і светапогляду сам чалавек не толькі стварае для сябе ўмовы творчага самавыяўлення і нясе ў самім сабе свой уласны лёс, але і сам стварае палітычную ўладу і ставіцца сам як быццам бы сваім "уласным Богам".

Ул. Самойла агітаваў свой народ ісці па шляху заходняга актывізму. Бо асноўны змест нацыянальнай ідэі такіх паднявольных і падзеленых народаў, як беларусы, ёсць свабода і воля да жыцця. Спасылаючыся на французскага сацыёлага Рэнана, ён любіў паўтараць: нацыя — гэта "штодзённы плебісцыт". Кожную сваю ўласнасць, кожнае сваё права яна павінна адваёўваць нанава. У гэтай барацьбе пераможа толькі высокая духоўная і працоўная актыўнасць. У заключэнне свайго прароцтва Ул. Самойла звярнуўся да беларусаў: "Дзяржыся за сваё роднае арэнне, беларускі народзе! Бо на гэтым камяні збудуе для цябе Бог царкву сваю, і вароты пякельныя не перамогуць яе!" Гэта — перыфраза звароту Хрыста да апостала Пятра (Евангелле паводле Мацьвея, 16, 18).

У яркіх артыкулах, што друкаваліся на старонках заходнебеларускіх газет "Наш сьцяг" (1923), "Змаганьне" (1923—1924) ды іншых выданнях, Ул. Самойла развіваў думкі свайго філасофскага твора, прымяняў іх для аналізу польскай і еўрапейскай палітыкі. Прадбачыў ён і перамогу фашызму ў Італіі, выкрываў рабаўніцкую палітыку былой Антанты і дэмагогію Мусаліні. У шэрагу публіцыстычных артыкулаў ("Новы зварот у справе Рура", "Пяты год версальскай Еўропы", "Адзнакі працверажэння", "Што дадуць новыя выбары ў еўрапейскія парламенты" і інш.), апублікаваных у газетах "Наш сьцяг", "Змаганьне" і "Голас беларуса" (1923—1924),

Ул. Самойла грунтоўна раскрыў эканамічныя і палітычныя фактары, якія руйнавалі мірнае жыццё Еўропы і фатальна вялі да сусветнай вайны. Наогул, гэты нікому невядомы ў Еўропе напаў ананімны палітычны агляда́льнік валодаў тонкай прагнастычнай інтуіцыяй. У нарысе "Шляхам катастрофаў (Сусветнае значэнне японскай катастрофы)" ён прадбачыў, што Японія пачне вызваляцца ад ярма еўрапейскага імперыялізму, раскрые творчыя магчымасці "азіяцкай душы", пачнецца адраджэнне яе самабытнай культуры і ў рэшце рэшт гэтая краіна стане магутным канкурэнтам "англа-амерыканскай сусветнай дыктатуры".

Не пакідаў ён выкрываць згубныя для славянскага свету вынікі грабежніцкага Рыжскага міру 1921 года ды каланіяльную палітыку польскага нацыяналізму на Беларусі. Крытыкуючы нядольнасць тагачаснай Польшчы справіцца з валютным крызісам, Самойла станоўча ацаніў "залатую" рублёвую рэформу ў СССР. У гэтых публікацыях яскрава выявіўся талент Самойлы як палітычнага фельетаніста. Рыжскі мір 1921 года ён называў "вердыктам новага Саламонава суду", хоць ні адзін з бакоў (Расія і Польшча) не быў сапраўднай маці беларускага дзіцяці.

Журналісцкім подзвігам Ул. Самойлы стала ананімная кніга-рэпартаж (394 друкаваныя старонкі) аб працэсе 45-ці беларусаў у Беластоку. Маладых адраджэнцаў абвінавачвалі ў стварэнні падпольнай арганізацыі ў Бельскім, Беластоцкім і Сакольскім паветах з мэтай аддзялення ад Польшчы шляхам узброенага паўстання часткі дзяржаўнае тэрыторыі Польскай рэспублікі і стварэння з адарваных земляў незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Справа разбіралася 14—22 траўня 1923 года. Суд даказаў, што ідэя незалежнасці была, але не было ні ўзброенага паўстання, ні ўзброеных паўстанцаў. Тым не менш маладыя кіраўнікі падпольнай арганізацыі (Сяргей Баранаў, Вера Маслоўская, Ігнат Матэйка) былі асуджаны на 6 гадоў, а тыя, хто ім памагаў, — на меншыя тэрміны астрога і штрафы. Аўтар унікальнай кнігі "Працэс 45 беларусаў у Беластоку" (1923) убачыў у гэтай падзеі сутыкненне дзвюх нацыянальных ідэяў: беларускай (адраджэнне народа, стварэнне суверэннай Беларусі) і польскай, што грунтавалася на міфе пра Вялікую Польшчу "ад мора і да мора" ды польскае "месіянства" на Беларусі.

Радыкалізм палітычных выступленняў Самойлы, яго актыўнае супрацоўніцтва ў "левым" друку можа прывесці чытача да памылковай высновы, быццам ён салідарызаваўся з Кампартыяй Заходняй Беларусі, праца якой фактычна напраўлялася з Масквы і Мінска. А на самай справе яны былі антыподамі. Ул. Самойла — прыхільнік дыялектыкі, але хутчэй фіхтэўска-гегелеўскай, чым марксісцка-ленінскай. У матэрыялізме і бальшавізме ён бачыў упадак духу і культуры, а не іх завяршэнне. Камуністы — за рэвалюцыю і класавую барацьбу, Самойла — за духоўна-творчую эвалюцыю і нацыянальную салідарнасць. Пісьменнік супрацоўнічаў з Таварыствам беларускай школы і Грамадой (БСРГ), сябраваў з Б. Тарашкевічам, іншымі дзеячамі беларускага руху. Але не прымала яго сэрца тых, хто паслухмяна выконваў месіянска-басяцкія дырэктывы бальшавікоў.

Пяць гадоў (1922—1927) Ул. Самойла змагаўся за адзінства беларускага руху. Калі ж беларускія партыі і групоўкі пад націскам бальшавіцкай прапаганды класавай барацьбы пачалі ўзаемнае "самаедства", выступіў з адкрытым лістом, заявіў аб сваім фармальным выхадзе з усіх беларускіх арганізацый. Беларускае грамадства, з жалем казаў Самойла, падзялілася на групы, паміж якімі стварыліся "такія немагчыма варожыя адносіны, што яны атручваюць ды руйнуюць усё палітычнае, грамадскае дый папросту асабістапрыватнае жыццё ў грамадзянстве" (газета "Наш сьцяг", 1927, 22 кастр.).

Пасля ваеннага перавароту ў Польшчы (май 1926) і падаўлення Пілсудскім разрознена беларускага руху Ул. Самойла адышоў ад актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці. Супрацоўнічаў у нямецкім "Штогодніку славянскай культуры і гісторыі" (1928—1929), друкаваў у беларускім і польскім друку рэцэнзіі і праблемныя артыкулы, прысвечаныя гісторыі і сучаснаму стану беларускай культуры.

Арыгінальны пісьменнік, публіцыст і філасоф, таленавіты настаўнік, па сутнасці прафесар, якім магла б ганарыцца кафедра культуры ці паліталогіі еўрапейскага універсітэта, Ул. Самойла з забраным заходнебеларускім краі сціпла жыў за кошт школьных урокаў і амаль што падпольнай публіцыстыкі.

Калі ў верасні 1939 года Чырвоная Армія заняла Вільню, Ул. Самойла разам з А. Луцкевічам, А. Уласавым, іншымі беларускімі дзеячамі адмовіўся ад прапановы ехаць у эміграцыю. Яны заявілі, што хочуць супрацоўнічаць з новаю ўладаю дзеля духоўнага адраджэння Беларусі. Але не былі пачуты бальшавікамі. 8 кастрычніка 1939 года пісьменніка арыштавалі энкавэдзісты на яго кватэры ў Вільні. Спачатку пакутаваў у сумна вядомых віленскіх Лукішках. Пасля яго адправілі па этапу ў Вілейку, пазней у Мінск. Адтуль не вярнуўся. Бо адтуль адпраўлялі ў Курапаты.

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у N 17.**

**ПРАФЕСІЙНЫ АРКЕСТР**



**У Брэсце заснаваны ўласны прафесійны сімфанічны аркестр. Ён арганізаваны пры абласным упраўленні культуры. Мэта новага калектыву — папулярызацыя беларускай і сусветнай класічнай музыкі. На прэзентацыі аркестра прагучалі творы Бетховена, Вебера, Брамса, беларускага кампазітара Яўгена Глебава і маладога брэсцкага кампазітара Уладзіміра Бабкова.**

**НА ЗДЫМКУ: на сцэне — новы сімфанічны аркестр рэспублікі. За пультам — галоўны дырыжор Уладзімір РЫЖКО.**

ДЗЕ БЫЛА АБВЕШЧАНА БНР

# НЕВЯДОМЫ ДОМ

75 год мінула з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускае Народнае Рэспублікі. Але да апошняга часу не было дакладна вядома, дзе адбылася гэта важная гістарычная падзея. Паводле ўскосных даных, доўгі час існавала меркаванне, што пасяджэнне Рады БНР 25 сакавіка 1918 года адбылося ў былым Юбілейным доме (сучасны Дом работнікаў мастацтваў).

Аўтарам гэтага артыкула ў бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі былі знойдзены звесткі аб тым, што абвяшчэнне незалежнасці БНР адбылося ў Мінску па вуліцы Захараўскай, д. 43 (сучасны дом па вуліцы Валадарскага, 9). У кастрычніку 1918 года Народным Сакратарыятам Беларусі быў выпушчаны першы нумар часопіса "Варта". У ім знаходзяцца звесткі аб тым, што гістарычнае пасяджэнне Рады БНР 24-25 сакавіка 1918 года адбылося ў пакоі старшыні Народнага Сакратарыята Язэпа Варонкі на вуліцы Захараўскай. Пацвярджэннем таму, што Народны Сакратарыят размяшчаўся ў момант абвяшчэння незалежнасці па вуліцы Захараўскай, 43, з'яўляецца зварот, датаваны 19 сакавіка 1918 года, да палітычных і грамадскіх арганізацый Беларусі ад імя Рады БНР. Газета "Вольная Беларусь", якая надрукавала гэты зварот, паведамляе, што ён быў прыняты на вуліцы Захараўскай, 43. Значыць Народны Сакратарыят, які быў выселены 25 лютага 1918 года немцамі са свайго памяшкання на пляцы Волі ў Губернатарскім доме, недзе ў сярэдзіне сакавіка размясціўся на трэцім паверсе дома N 43 па вуліцы Захараўскай. На працягу амаль усяго 1918 года на гэтым доме знаходзілася спецыяльная шыльда з надпісам: "Народны Сакратарыят Беларусі". 1 красавіка ў памяшканні Народнага Сакратарыята адкрыліся курсы беларусазнаўства. Яны карысталіся вялікай папулярнасцю: ужо ў сярэдзіне красавіка на іх займалася звыш 200 слухачоў. На курсах чыталіся лекцыі па гісторыі беларускай мовы і літаратуры, гісторыі, геаграфіі, эканоміцы Беларусі. Сярод лектараў былі такія вядомыя на той час беларускія грамадскія дзеячы і навукоўцы, як Аляксандр Уласаў, Язэп Варонка, Рамуальд Зямкевіч, Адам Будзька, Язэп Лёсік, Станіслаў Лянкоўскі, прафесар Масоніус, Тамаш Грыб і іншыя. Курсы працягваліся больш двух месяцаў.

З 5 верасня 1918 года ў памяшканні Народнага Сакратарыята па вуліцы Захараўскай, 43, пачалі працаваць 9-месячныя бясплатныя настаўніцкія курсы пад кіраўніцтвам Кастуся Езавітава.

У сувязі з тым, што ў доме па вуліцы Захараўскай, 43 (сучасная Валадарскага, 9), адбываліся важныя гістарычныя падзеі, у Мінгарсавет аргкамітэтам па святкаванню 75-годдзя БНР пры падтрымцы з боку навукоўцаў-гісторыкаў была ўнесена прапанова ўшанаваць гэта месца спецыяльнай памятнай дошкай. Па невядомых да гэтага часу прычынах такая прапанова Мінгарсаветам была адхілена.

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## ХАЦЕЛАСЯ ЖЫЦЬ...

Назва гэтай кнігі Платона Галавача быццам крык душы, што дайшоў праз дзесяцігоддзі. Безумоўна, называючы свой зборнік апавяданняў, выпушчаны ў 1930 годзе тагачасным Беларускім дзяржаўным выдавецтвам, — "Хочацца жыць", ён укладваў у яго іншы сэнс, чым падаецца цяпер. Успаўляў сацыялістычную рэчаіснасць, паказваў людзей, якія плённа працавалі ў імя будучыні, у якую верылі.

Цяпер жа, праз гады, гэта крык душы. Хочацца жыць! Хочацца жыць! Яму ж, вядомаму пісьменніку і грамадскаму дзеячу, калі адышоў у нябыт, было ўсяго трыццаць чатыры гады! Сама жыць, ды куля энкавэдзістаў абарвала ягонае жыццё ў росквіце творчых і фізічных сіл.

Зборнік "Хочацца жыць" — адзін з многіх, прадстаўленых на кніжнай выстаўцы, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння П. Галавача ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Сабраны разам дзесяткі кніг, у тым ліку і пераклады на рускую, украінскую мовы. Збор твораў у трох тамах, выпушчаны ў 1958 годзе. Поруч адно з апошніх выданняў — раман "Праз гады", які ў 1992 годзе выйшаў у выдавецтве "Юнацтва" ў серыі "Школьная бібліятэка".

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# крынічка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Бабуся, навучы...

Фота Віктара СТАВЕРА.

Уладзімір КАРЫЗНА

## НЕБЫЛІЦА

Сёння
Хмара ў хату
бегла,
На засланы ложак
Легла,

Хлеб змахнула
Са стала,
Стол
Булёнам заліла.

Парассыпала скрозь
Смецце...
І зваліла ўсё
На Пецю.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

## НАСУПА

Насупіўся насупа,
Насуперак усім,
Нібы заснуў
Над супам,
Нібы знямог зусім.

Насупа не ўсмiхнецца,
На ўсіх як сыч глядзіць:
Шыпіць,
Бубніць,
Злуецца —
Яму не дагадзіць.

Бабуля ходзіць бокам —
Хаця б не зачапіць!
Насупа адзінока
Ужо над супам спіць.

Пакрыўдзілі насупу —
Не рада ўся радня.
Мо ён хацеў не супу,
Мо ён хацеў... рамня!

Авяр"ян ДЗЕРЖЫНСКІ

## ВЕРАБЕЙЧЫК І ПРАМЕНЬЧЫК

Жаўтароты верабейчык
Дзёўбаў на траве
Праменьчык.
Ды ніяк той
Не дзяўбецца,
Вераб'іха
Аж смяецца.
— Ты дурненькі, —
Кажа матка, —
То ж праменьчык,
Не зярнятка.

Яўген КРАМКО

# СІГНАЛІЗАТАР

## (КАЗКА)

З унучкам Сяргеем кіруем у лес. Ідзецца лёгка. Ён задаволены: вядома, з дзедам ідзе, таму ён гаманлівы, вынаходлівы, бадзёры.

А вось і лес, асветлены яркімі промнямі сонца. Затрымаліся на ўзлеску. Лес гаманіў на розныя птушыныя галасы, а над ім, расставіўшы крылы, павольна плыла вялікая птушка. То спусціцца ніжэй, выгукне: "Крум! Крум!", то павернецца набок, узнімецца ўверх і зноў спускаецца да верхавін рэдкіх гонкіх хвоін.

— Як называецца тая птушка? — спытаў унук, паказаўшы ўверх.

— Гэта рэдкая птушка. Яна называецца крумкач.

— Чаго ён тут кружыцца?

— Там у лесе ён за кімсьці сочыць. Пойдзем туды?

— Ідзём.

— Каб бліжэй падысці, трэба быць уважлівым і вельмі асцярожным, каб нават галінка не трэснула.

Ідзём моўчкі. Унук трымаецца да мяне блізенька, адчуваю, хвалюецца, хоць і не кажа аб гэтым. Хутка выходзім на знаёмую мне прасеку і затрымліваемся ля густой ялінкі. Раптам недалёка ад нас воўк — шусь. Худы, жывот падцягнуты. Відаць, воўк пачуў, што хтосьці ёсць недалёка, таму стаў, узняў галаву, паглядзеў у наш бок і павольным крокам пайшоў па прасецы далей ад нас.

Унук прытуліўся да мяне і ні слова, ні паўслова. Крумкач нахіліўся на левае крыло, раз-пораз пракрычаў крум-крум! і накіраваўся туды, куды пайшоў воўк.

— Што ён крыкнуў? — пытае Сяргей.

— Тады, як мы ўваходзілі ў лес, ён паведамляў: будзьце асцярожны, тут злосны звер.

— А цяпер што ён сказаў?

— Звярні ўвагу, цяпер ён крычаў інакш, гучней і часцей. Я думаю, ён кажа: "Уцякайце, звер ідзе далей па лесе".

Мы выйшлі на палянку. Селі пад ялінку, і я кажу:

— Крумкач, як і сойка, калі каго заўважыць у лесе, абавязкова паведамляе. Вось я табе раскажу, як крумкач папярэдзіў злачынствы ваўка.

— Ты сам бачыў ці табе расказалі?

— Вядома, сам. Вось паслухай. Калі ты быў яшчэ зусім маленькім, я пайшоў у лес, трапіў на гэтую палянку. Бачу, на ёй ласуюцца маладою траўкаю казулі, а над імі кружыцца крумкач. Э, думаю, тут штосьці не так і пачаў прыглядацца.

Козачкі перасталі есці траўку, узнялі галовы, паглядзелі на густы ельнік. Яшчэ раз паслухалі голас чорнай птушкі і падскокам паімчаліся на другі бок палянкі. Воўк, прысядаючы, выйшаў з гушчара, угледзеў толькі, як мільгаюць белыя хвосцікі казуль. Ён аблізнуўся, паглядзеў са злосцю на крумкача і па следу казуль пайшоў праз палянку. Крумкач жа ляцеў над ім і гукаў: "Крум! Крум! Крум!"

З другога боку палянкі ля кусцікаў цяцёркі купаліся ў жоўтым пяску, а цецерукі, веерам наставіўшы хвасты, паспускаўшы крылы, хадзілі адзін перад адным. Цяцёркі ўважліва пазіралі на танцораў-хвалькоў.

Крумкач закружыўся над імі і выгукнуў: "Крум—крум—крум!"

— Чуеце? — выгукнула адна цяцёрка. — Небяспека!

Воўк заўважыў забаву цецерукоў, прысеў на жывот і папоўз на такоўню. А крумкач апусціўся ніжэй, закружыўся і яшчэ мацней: "Крум—крум—крум!"

Цяцёркі скокнулі да сваіх сяброў, штосьці сказалі ім. Вясёлыя галасы змоўклі, і ўсе дружна ўзняліся ў паветра і паляцелі над верхавінамі дрэў.

Ад роспачы воўк ледзь не заплакаў, зашчаміў галодны рот, глянуў уверх і толькі застагнаў:

— Я табе не дарую, чорны ты смуголь! — і пайшоў у лес.

Ідзе галодны па лесе і думае: "Дзе ж тут чаго паесці? Пайду на поле, можа што натрапіцца". Прабіраецца праз малады густы хвойнік, а крумкач над ім: "Крум! Крум! Крум!"

Скончыўся лес, і наперадзе паўстала шырокае раздолле поля. На месцы, дзе зімою стаяў стог саломы, мышкуе, грабецца лісіца.

Воўк прылёг ля кусціка ды разважае: "Як жа мне яе, хітруху, падмануць? Вось быў бы пачастунак".

Крумкач закружыўся над полем і, як звычайна, закрычаў: "Крум-крум — крум!" Лісіца перастала грабсціся, глянула ў неба, потым на поле.

А воўк паўзе да лісіцы. Крумкач закружыўся, апусціўся зусім нізка і яшчэ мацней як закрычыць: "Крум-крум-крум!"

Лісіца адчула небяспеку, заўважыла ваўка і бягом у поле, а воўк — за ёю. Але з кожным крокам ён адставаў і адставаў: вядома, галодны.

"Не даганю", — упэўніўся ён і вярнуўся ў лес. Ідзе, галава і ногі баляць, а крумкач зноў над ім працяжна: "Крум-крум-крум!"

"Ну і прычапіўся, як нячыстая сіла, лягу, адпачну, потым зноў пайду", — вырашыў ён і ступіў пад маладую ялінку, пад якою густа рос зялёны баравы мох. І толькі ён бокам крануў ніжнія галінкі, як з-пад іх спрасонку як скокне шэры заяц, аж воўк здрыгануўся. Адбегся заяц крокаў пяць, сеў, вушкі наставіў і азіраецца: "Хто гэта не даў мне паспаць?" А крумкач крычыць яму: "Крум-крум-крум!" І толькі тады заяц убачыў злоснага ваўка, які прысеў, каб скокнуць на яго. І ў апошнюю хвіліну, як на спружыне, скок убок і з усіх ног паімчаўся па лесе.

Воўк вярнуўся да ялінкі, лёг на мяккі мох, заплюшчыў вочы і, засынаючы, вырашыў: "Буду ляжаць, пакуль не сцямнее, каб адстаў гэты сігнальшчык".

А крумкач кружыўся на месцы і час ад часу падаваў голас: "Крум! Крум! Крум!"

— Вось так гэтая вялікая чорная птушка, якая называецца крумкач, з вышыні выдатна праглядае лес. І калі разумець яе голас, можна дакладна ведаць, што навокал робіцца, — скончыў я апавяданне. Унучак маўчаў, зацікаўлены гэтымі выпадкамі. Я толькі не зразумеў: можа яму шкада было галоднага ваўка?

Уладзімір ПАЎЛАЎ

## КУДЫ ПАДЗЕЎСЯ ГРОМ?

Дождж гарачы з-пад маланкі
Коціць грому абаранкі.
Развязалася вясло —
І рассыпалася ўсё.
Так і грому кругі
Раскаціліся ў лагі.
Пабягу ды пазбіраю
Ды ў бразготкі пагуляю.
Зірк пад куст — няма нічога.
А парэчак вельмі многа.
Падаў гром на луг мурожны.
Там трава — схавацца можна.
Ну, магчыма, дзе авёс,
На лес гледзячы, парос?
Не, няма.
Відаць, у жыце.
Калі бачылі, скажыце.

Змітрок МАРОЗАЎ

## КОЛЬКІ Ж НОГ У ПАВУЧКА?

Колькі ног у павучка?
Неўгамонная дачка
Назірае цэлы дзень,
Як павук гамак пляце.
Хоць няма ў яго пруткоў,
Дзень мінуў — гамак гатоў!
Заклапочана дачка:
"Колькі ж ног у павучка?"

Уладзімір КАРЫЗНА

## МЕСЯЦ-ЛІХТАРЫК

— Мамачка,
Мамка, —
Просіць
Віталік, —
Купі мне такі,
Як на небе,
Ліхтарык.

— Навошта
Табе ён,
Я ведаць
Хачу.
— Той
Хмаркі схаваюць —
Я свой
Уключу.

## ЗАГАДКІ

* * *

У пагоду, на мароз —
Не дастаць аршынам нос.
Як адліга вернецца,
Ён па даху сцелецца.

(Дым над комінам)

* * *

Калі толькі ляжа снег,
На яго агледзіны
З-пад навесаў і з-пад стрэх
Выплываюць лебедзі.

(Санкі)

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 653.
Падпісана на друку 3.05.1993.